незалежная газета

№ 12 (706) 30 сакавіка 2011

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады



**Дзень Волі: Лакальныя праявы смеласці**

Старонка 3



**Павал Севярынец. Ліст з турмы**

Старонка 7



**Канцэрт Шакіры адменяць?**

Старонка 9

### Тэндэнцыі

## Зімоўскі ўладкаваўся ў Расіі

Дакладных звестак пра сваё месца працы экс-кіраўнік Белдзяржтэлерадыёкампаніі не раскрывае, але ад вяртання ў Беларусь адмаўляецца. Зімоўскага скінулі з БТ пасля выбараў, разам з Пяткевіч. Кажуць, што іх прызналі вінаватымі ў рэзкім зніжэнні падтрымкі Лукашэнкі ў грамадстве.

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2**.

# У валюты будзе два курсы

**Нацбанк дэвальваваў рубель для прадпрыемстваў на 10%. Курс для насельніцтва застанецца ранейшы.**

Нацыянальны банк дазволіў банкам адхіляцца ад афіцыйнага курса замежнай валюты на 10%. Але толькі для прадпрыемстваў. Такая рэкамендацыя накіравана банкам лістом ад 29 сакавіка. Што яна азначае?

Імпартныя тавары падаражэюць. Валюту ў банках будзе купіць яшчэ цяжэй. Гэта таксама ўдар па людзях, якія атрымліваюць паступленні ў валюце з-за мяжы.

Што датычыць прадпрыемстваў, то гэтая мера ўдарыць па імпарцёрах і падтрымае экспарцёраў. З дапамогай яе дзяржава разлічвае спыніць падзенне золатавалютных запасаў. Іншага выхаду Нацбанк не меў. За апошнія месяцы фінансавы стан Беларусі стаў крытычным. Дэвальвацыя рубля склала ад пачатку года 6%. Новае рашэнне Нацбанка давядзе яе да 16%. Гэта рэкорд у Еўропе.

Ад 29 сакавіка банкі могуць прадаваць юрасобам даляры па 3340 рублёў, а еўра — па 4720 рублёў.

Фармальна сярэдні заробак у краіне застаецца на ўзроўні 450 даляраў. Хоць пры пераліку на камерцыйны курс ён зніжаецца да 400.

Большая частка валютных угодаў зараз будзе ажыццяўляцца па-за біржай.

Эканаміст Зміцер Крук кажа: «Фактычна, Нацбанк легалізаваў сітуацыю, якая цяпер утварылася на валютным рынку, калі курс быў насамрэч вышэйшым, чым дэкларавалася афіцыйна. Дадатковы курс выгадны для экспарцёраў, але ўсё адно шмат хто, у тым ліку і сярод прадпрыемстваў, будзе павінен прадаваць валюту на афіцыйным рынку і па афіцыйным курсе».

**Яўген Васількоў**

**Дэвальвацыя рубля ўратуе валютныя ўклады**

Імавермасць дэфолту Беларусі па сваіх абавязках перад грамадзянамі зменшылася.



**Множнасць курсаў адраджае чорны рынак валюты**

Людзі будуць старацца прадаць валюту не банку па заніжаным курсе, а валютчыкам. Прадаўцы будуць старацца браць за тавары валютай, а не рублямі.



**Сяргей Міхалок: Сучасную Беларусь апісаў Оруэл.** Старонка 9

**«Эліта» і «багема» сучаснай Беларусі складаецца з уладальніц вясельных салонаў і касметалагічных кабінетаў і двух-трох папугаяў з беларускага тэлебачання.**

# Чорны спіс

## канцэрты «Ляпісаў» забаронены

# Расія дала 10 дзён

**на рэфармаванне беларускай гаспадаркі, інакш «канкрэтнай размовы» не выйдзе.**

Беларускаму міністру фінансаў Андрэю Харкаўцу ў Расіі паставілі канкрэтныя ўмовы па рэфармаванні беларускай эканомікі. «Гэта скарачэнне расходаў у бюджэтнай сферы, дзяржпраграм, стабілізацыя грашова-фінансавай сістэмы», — расказаў пасол Расіі Аляксандр Сурыкаў.

Іншымі словамі, патрабаванні расійскага боку мала чым розняцца ад тых, што раней выстаўляў МВФ.

Лукашэнкаўцы адчайна дабіваюцца атрымання новых крэдытаў ад Расіі. Без іх беларускую фінансавую сістэму чакае крах. Золатавалютныя запасы краіны скараціліся на 30% за два месяцы.

Беларусы паехалі ў Маскву з гатовай праграмай на руках, але яна не задаволіла міністра фінансаў Расіі Аляксея Кудрына.

Варта зазначыць, што афіцыйнаму Мінску не ў навіну выпрацоўваць падобныя планы. Нешта падобнае ўжо было зроблена для МВФ. Але далёка не ўсё тады ўвасобілася ў жыццё. Напрыклад, у галіне прыватызацыі істотных зменаў таксама не адбылося.

Магчыма, што расіяне якраз спрабуюць дабіцца прыватызацыі «Беларуськалія», да якога мае цікавасць расійскі «Уралкалій».

Кудрын паведаміў, што ўлады Беларусі звярнуліся і ў Антыкрызісны фонд ЕўрАзЭС. Усяго «квітнеючая» просіць 3 млрд даляраў.

«Наколькі мне вядома, беларускі бок задаволены вынікамі першай сустрэчы з Кудрыным», — удакладніў пасол Сурыкаў.

**Зміцер Панкавец**

**Лук'янаў: Расія будзе ставіць усё больш жорсткія ўмовы**

Галоўны рэдактар часопіса «Россия в глобальной политике» Фёдар Лук'янаў пракаментаваў для «НН» апошнія тэндэнцыі ў беларуска-расійскіх адносінах. **Старонка 5.**



# Галасы з-за сценкі

Палітычны працэс над Дашкевічам і Лобавым пабіў рэкорды ў цынізме. Старонка 6.

**Восьмы асуджаны за Плошчу: Мікіта Ліхавід.** 20-гадовы актывіст Руху «За Свабоду» атрымаў тры з паловай гады турмы. **Старонка 5.**

**Беларуская рэвалюцыя яшчэ не завершана.** Сённяшнія палітычныя суды — працяг змагання за дасягненне мэтаў, пастаўленых 25 Сакавіка 1918 года. Піша гісторык Анатоль Сідарэвіч. **Старонка 10.**

### У нумары

# КДБ абвяргае наяўнасць правакатараў 19 снежня

КДБ падвёў рысу ў правядзенні мерапрыемстваў па вышуку і ідэнтыфікацыі ўдзельнікаў маніфестацыі 19 снежня.

21 сакавіка былі затрыманыя яшчэ трое. Гэта Віталь Мацукевіч, Аляксей Шарстоў, Дзяніс Гусельцаў. Усе яны вучыліся ў адным класе школы. Усе аднаго года нараджэння — 1987.

У паведамленні прэс-службы КДБ гаворыцца, што спецслужбы маюць неаспрэчныя доказы іх віны. Маўляў, менавіта яны актыўна заклікалі да штурму Дома ўрада.

Мацукевіч знаходзіцца ў СІЗА КДБ, а з Шарстова і Гусельцава ўзятая падпіска аб з'яўленні. Паказанні гэтых людзей былі прадэманстраваныя ў вечары ў нядзелю па ўсіх дзяржаўных тэлеканалах. Звярнула ўвагу, што Гусельцаў блытаў імя свайго аднакласніка Мацукевіча, называў яго не Віталём, а Аляксеем.

Менавіта Мацукевіч шмат кім разглядаўся як правакатар на Плошчы. Менавіта ён з прыступак Дома ўрада, схаваўшы рукі ў кішэнях, гукаў: «Беларусы, сюды!» У інтэрнэце ён атрымаў мянушку «Чырвоны нос».

КДБ тым самым спрабуе абвергнуць меркаванні, што сярод тых, хто заклікаў да пагрому ўрадавага будынка, былі правакатары з праваахоўных органаў. І як доказ гэтага дэманструе затрыманні Мацукевіча, Шарстова і Гусельцава.

Тым не менш, застаюцца аўдыёзапісы перамоваў ціхароў, якія рапартавалі аб біцці шкла. Застаецца невысветленым, што за мужчына падносіў да будынка рыдлёўкі. І нашто было спецслужбам раскідваць каля Дома ўрада арматуру, калі яе не было там пасля разгону дэманстрантаў. Нарэшце, нашто спатрэбіўся жорсткі разгон і арышты, калі дэманстранты ўжо разыходзіліся?

На думку Таццяны Елавой, якая праводзіла незалежнае расследаванне падзей, менавіта агенты спецслужбаў маглі першымі біць шкло, а далей ужо гарачыя галовы з ліку дэманстрантаў кінуліся прабівацца ў Дом урада. Такім чынам людзі хацелі прадэманстраваць свой пратэст супраць парушэнняў правоў чалавека і дэмакратыі ў Беларусі. Лукашэнкаўцам жа хацелася ажыццявіць паказальны пагром апазіцыі.

**Зміцер Панкавец**



## Кампанія дапамогі звольненай настаўніцы

Выдатнага педагога Наталлю Ільініч выгналі з вясковай школы за яе грамадзянскую пазіцыю.

Грамадскасць Мінскай вобласці дабіваецца аднаўлення на працы настаўніцы гісторыі Талькаўскай школы з Пухавіцкага раёна. Наталлі Ільініч, якая мае дачку-студэнтку, два месяцы сядзіць без працы і без заробку. Жыве з грошай, выплачаных ёй як адступное пры звальненні, а таксама з хатняй гаспадаркі.

Ільініч звольнілі за палітыку пасля выбараў. Бацькі школьнікаў за яе заступаліся, дзеці ездзілі ў райана. Нічога не дабіліся.

Цяпер сябры Ільініч падалі заяўкі на пікеты 15 красавіка на плошчы перад Пухавіцкім райвыканкамам у Мар'інай Горцы. Яны таксама заклікаюць усіх людзей добрай волі падтрымаць звольненую Ільініч і матэрыяльна.

**Грошы настаўніцы Наталлі Ільініч можна высылаць паштовым пераводам:**
222813 Мінская вобласць, Пухавіцкі раён, вёска Талька, вул. Васільева, 18.
Ільініч Наталлі Валянцінаўне

## Сцісла

• **Ладуцька: Чарга на жыллё пакуль пераглядацца не будзе.** Старшыня Мінгарвыканкама Мікалай Ладуцька заявіў, што для гэтага пакуль няма заканадаўчай падставы. Нагадаем, што 25 сакавіка Аляксандр Лукашэнка даручыў перагледзець парадак фармавання чаргі з тых, хто мае патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў у сталіцы. Напрыклад, адсунуць у чарзе тых, хто ўжо мае нейкую колькасць метраў на асобу.

• **У канцы тыдня пачнецца сапраўдная вясна.** У нядзелю 3 красавіка на поўдні краіны паветра прагрэецца да 18 градусаў цяпла. Апошнія дні сакавіка Беларусь яшчэ застанецца ва ўладзе халодных паветраных мас. А ўжо ўдзень 31 сакавіка паветра прагрэецца да 3–10 градусаў цяпла, у Брэсцкай вобласці чакаецца да плюс 15 градусаў.

• **Пенсіянерам не плануюць вяртаць ільготы на праезд.** Пра гэта паведаміла начальніца аддзела па справах ветэранаў і пажылых людзей Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Святлана Ермаковіч.

• **Маці Севярынца дабіваецца сустрэчы з мітрапалітам Філарэтам.** Палітвязень у сваіх лістах выказваў жаданне сустрэчы са святаром, каб паспавядацца і прыняць прычасце. Аднак следчы ў сустрэчы са святаром адмаўляе. Каб вырашыць гэтую праблему, Таццяна Севярынец спрабуе сустрэцца з мітрапалітам Мінскім і Слуцкім.

• Будаўнік з Гродна расказаў, як яго змусілі даць інтэрв'ю БТ і падпіску аб супрацоўніцтве з КДБ. Кірыл Семянчук папрасіў прытулку ў Польшчы, а цяпер рашыўся і на інтэрв'ю «Белсату». Гэты будаўнік з Гродна ўвайшоў у ініцыятыўныя групы Някляева і Раманчука. Перад выбарамі яго пасадзілі. Пры гэтым яго змусілі даць інтэрв'ю БТ і падпісаць заяву аб супрацоўніцтве з КДБ. Семянчук кажа, што яго білі валёнкамі, напоўненымі шчэбенем.

**Мікола Бугай**




**АБСЕ спыняе працу ў Мінску. З будынка місіі АБСЕ ў Мінску знялі ўсе шыльды. Працу офіса АБСЕ спынілі беларускія ўлады. Офіс мае скончыць сваю працу да 31 сакавіка.**

## Le Monde: Трэба спыніць Лукашэнку цяпер, інакш ён стане другім Кадафі

Пакуль увага Захаду прыкаваная да рэвалюцый у арабскім свеце, дыктатура ў Беларусі ўсё мацней раскручвае махавік рэпрэсій, піша французская газета Le Monde.

Заснавальнік праваабарончага цэнтра «Вясна» Алесь Бяляцкі, які 24 сакавіка наведаў Парыж, заклікаў французскае МЗС ужыць эканамічныя санкцыі супраць беларускага рэжыму.

Le Monde піша, што беларускія валютныя рэзервы амаль вычарпаныя, рэальны дэфіцыт бюджэту дасягае катастрафічных велічыняў.

«Трэба спыніць Лукашэнку цяпер, інакш ён стане другім Кадафі», — цытуе выданне словы праваабаронцы Сашы Кулаевай.

**Сяргей Гезгала**

### справа ўсенародная

«Наша Ніва» і Arche скančаюць падрыхтоўку да друку фундаментальнага выдання «Гісторыя масавых акцый у Беларусі. 1988—2009». Звяртаемся з просьбай да ўсіх чытачоў: хто мае цікавыя калекцыі фотаў і артэфактаў на гэтую тэму, перадайце іх у Рэдакцыю для капіявання і публікацыі ў гэтай кнізе.

Пошта: NN@nn.by. Скайп: nashaniva. Тэл. (017) 284-73-29, (029) 613-32-32, (029) 707-73-29.

### Самае чытанае на nn.by за 23—29 сакавіка

1 Лукашэнкаўцы ачапілі цэнтр горада, каб сарваць Дзень Волі
2 Зянон Пазняк. Вяртанне на радзіму. Відэафільм «НН»: з палітыкам праз Вільню і Віленшчыну
3 Нацбанк афіцыйна дазволіў множнасць курсаў. Даляр — 3340 рублёў
4 Дзень Волі. Фотарэпартаж Юліі Дарашкевіч
5 Дзень Волі. Фотарэпартаж Сяргея Гудзіліна
6 Дашкевічу — 2 гады, Лобаву — 4
7 «Здаліся» «Белінвестбанк», «Прыёрбанк» і «БПС-Банк»
8 Каньяк Колі Лукашэнкі — фотафакт
9 Рэпартаж на НТВ пра забароненых музыкаў
10 Беларусы абганяюць расіян па даўжыні пеніса, але не па IQ

# Важная інфармацыя для тых, хто купляе «НН» у «Белсаюздруку»

«Белсаюздрук», якому належаць усе газетныя кіёскі Мінска, адмаўляецца браць у продаж больш чым 1800 экзэмпляраў «Нашай Нівы». Яны распрадаюцца цалкам. Афіцыйнае вяртанне складала ў студзені 2—3%. Гэта азначае, што ў рэальнасці купіць «Нашу Ніву» можна толькі ў сераду. Сапраўды, многія чытачы тэлефануюць, наракаюць, што газету купіць цяжка.

На нашы просьбы павысіць колькасць асобнікаў у продажы «Белсаюздрук» адказаў, што «не плануе павелічэнне тыражу». Выглядае, што абмежаванне тыражу мае палітычны характар. Газету раскупляюць пастаянныя чытачы, і яна менш трапляе на вочы новаму чытачу.

У сувязі з гэтым маем некалькі рэкамендацый:

**1.** Калі вы не здолелі купіць нумар у кіёсках «Белсаюздруку», пытайцеся газету ў найбліжэйшым аддзяленні «Белпошты» і ў прыватных распаўсюднікаў. На поштах «Нашу Ніву» таксама прадаюць.

**2.** Вельмі рэкамендуем падпісвацца. Так вы будзеце атрымліваць газету гарантавана. У той жа час і новыя чытачы будуць сутыкацца з газетай у кіёсках.

**3.** Просім кожнага з вас, хто не знаходзіць газеты ў сваім шапіку «Белсаюздруку», адразу кіраваць кароткі ліст наступнага зместу:

*ГРУП «Белсаюздрук»*
*220050 Мінск, вул.Валадарскага, 16*

*Я, (імя, імя па бацьку, прозвішча), які пражывае па адрасе ..., не знаходжу ў продажы газеты «Наша Ніва» ў кіёску №..., дзе я прывык яе купляць. Прашу павялічыць колькасць экзэмпляраў гэтай патрэбнай мне газеты, якія паступаюць у гэты кіёск.*

*З павагай,*

...

# Не забудзьцеся падпісацца!

### Падпіска праз Рэдакцыю

Цана падпіскі праз Рэдакцыю на месяц складае 7500 рублёў.

Мы рэкамендуем падпісвацца праз Рэдакцыю.

Наша сістэма дастаўкі газеты за 4 гады даказала сваю надзейнасць. Мы зможам дастаўляць Вам газету хутчэй або з той жа хуткасцю, што «Белпошта».

**Каб штотыдзень атрымліваць газету, дасылайце адрасы і грошы за газету.**

1) Просім усіх ахвотных падпісацца паведамляць у Рэдакцыю свае адрасы і тэлефоны. Гэта можна зрабіць праз: тэлефоны: (017) 284-73-29, (029) 260-78-32, (029) 618-54-84, e-mail: dastauka@nn.by, паштовы адрас: 220050, г.Мінск, а/с 537.

2) Просім у бланку банкаўскага паведамлення ці паштовага пераказу дакладна і разборліва пазначаць адрас, у тым ліку паштовы індэкс і код пад'езда.

**Банкаўскія рэквізіты:**

ПВУП «Суродзічы», УНП 190 786 828

Аддз. № 539 ААТ «Белінвестбанк», вул. Калектарная, 11, Мінск, код 739

Рахунак атрымальніка: 3012 740 628 011

Від аплаты: За газету «Наша Ніва»

### Падпіска праз «Белпошту»

Цана гэтай падпіскі — 8 520 руб. на месяц.

**Падпісныя індэксы ў каталогу «Белпошты»:** для людзей — 63125, для прадпрыемстваў — 631252. Падпісацца можна на кожнай пошце.

### Дзякуй падпісчыкам, якія падпісваюцца праз Рэдакцыю

Ірыне Ц. з Жыткавіцкага раёна.
Сяргею В. з Полацкага раёна.
Міхаілу Т. са Слуцкага раёна.
Ірыне Я., А.П. з Брэста.
Дзмітрыю П. з Ваўкавыскага раёна.
Уладзіміру Я. з Барысаўскага раёна.
Сцяпану Г. з Мінскага раёна.
Ганне П. з Талачынскага раёна.
С.К. з Гродна.
Тадэвушу Ш. з Маладзечанскага раёна.
Віталію П. з Брэсцкага раёна.
Аляксандру Б. з Капыльскага раёна.
Надзеі К. з Гродзенскага раёна.
Алене З. з Гомеля.
Мікалаю Р. са Жлобінскага раёна.
Паўлу С. з Горацкага раёна.
Валерыю П. з Баранавіцкага раёна.
П.К. з Мастоўскага раёна.

# Лакальныя праявы смеласці

**На Дзень Волі 25 Сакавіка лукашэнкаўцы ачапілі цэнтр Мінска, каб сарваць дэманстрацыю.**

Сёлета на Дзень Волі заставалася толькі што шукаць лакальныя праявы смеласці асобных людзей. Бо акцыі як такой не адбылося.

Цэнтр горада яшчэ ад абеду быў ачэплены міліцыяй. У дварах побач з плошчай Якуба Коласа стаялі дзясяткі аўтазакаў і спецназаўцаў.

Такія ўмовы нярэдка былі і ў папярэднія гады, але людзі ўсё адно знаходзілі шляхі, каб адсвяткаваць 25 Сакавіка публічна. Дзень Волі — 2011 па колькасным складзе ўдзельнікаў упаў на ўзровень 2003—2004. Тады зусім невялікія разрозненыя купкі людзей збіралася на плошчах Мінска. Спецназ іх хутка і лёгка разганяў.

Чаму так здарылася, можа быць некалькі прычын. Апазіцыя пасля 19 снежня абезгалоўленая. Не засталося лідараў, якія здольныя павесці за сабой. Мілінкевіч пасля 2006-га здолеў захаваць аўтарытэт і вагу. Таму праз год пасля выбараў на Дзень Волі выйшла шмат людзей. У гэтым жа годзе апазіцыя не змагла дамовіцца паміж сабой. Падзяліліся на «коласаўцаў» і «купалаўцаў» — па месцы збору ля помніка аднаго з паэтаў. Моладзь хацела дзейнічаць, больш сталыя палітыкі — не рызыкаваць.

Па-трэцяе, жорсткія паслявыбарчыя рэпрэсіі таксама адбіваюцца на жаданні ўдзельнічаць.

Магчыма, у такой сітуацыі і варта было б правесці дазволеную акцыю. Каб неяк узняць людскі дух. Мінулыя гады заяўнікі 25 Сакавіка прасілі як месца збору Акадэмію навук. І акцыі, у прынцыпе, праходзілі паспяхова.

Акадэмія навук — гэта найбліжэйшае ад цэнтра месца каля метро, дзе ўлады дазвалялі апазіцыі збірацца. Не, сказалі найбольш радыкальныя, трэба ісці ў цэнтр горада. У выніку не атрымалася нічога.

Пасля забароны шэсця так і не знайшоўся ніводзін лідар, хто заклікаў бы людзей пайсці за сабой. Усе знялі з сябе адказнасць. Замест традыцыйнага штогадовага мітынгу было абранае ўскладанне кветак.

Чакаць у такіх умовах шматтысячных акцый не выпадала. Мы бачылі толькі лакальныя праявы пазіцыі. Вось Мікола Дземідзенка выходзіць на плошчу Якуба Коласа, гукае «Жыве Беларусь!». Зараз жа чацвёра людзей у чорным хапаюць немалога Міколу за рукі і ногі і валакуць у падземны пераход.

Іншы хлопец уздымае расцяжку «Лукашэнка — не прэзідэнт». Ён стаіць з ёй літаральна тры секунды, як тыя самыя «чорныя» ястрабамі накідваюцца на яго. Вырываюць не толькі расцяжку, але нават бел-чырвона-белую стужачку з курткі. Каб не было нічога, што нагадвае пра свята. У іх такая каманда.

Ля сквера Янкі Купалы з актыўнасцю было трошку лепш. Там хоць скандавалі «Жыве Беларусь», праспявалі «Магутны Божа». Але кветкі да помніка паэта ўскласці не дазволілі. Моладзь клала іх проста да ног міліцыі.

Адзіны бел-чырвона-белы сцяг быў узняты ў гэты дзень на Кастрычніцкай плошчы, калі акцыя ўжо канчалася. Вось і ўсе праявы смеласці.

**Зміцер Панкавец**



Людзі збіраліся на Дзень Волі з кветкамі.



Наста Палажанка і Таццяна Шапуцька ўскладаюць кветкі да ног міліцыянта, які перакрывае ім шлях у Купалаўскі сквер.



Маладафронтаўца Міколу Дземідзенку вынеслі з акцыі на руках. Пазней ён атрымаў 15 сутак.



Малойчыкі ў цывільным хавалі твары.

## Дзень Волі ў рэгіёнах і свеце

**Віцебск.** Шэсце аднаго чалавека зладзіў актывіст Сяргей Каваленка. Ён хадзіў па цэнтры з двума вялізнымі бел-чырвона-белымі сцягамі і выкрыкваў «Смерць халуям».

**Гомель.** Грамадскія актывісты ўсклалі кветкі да месца, дзе стаяў дом гомельскай настаўніцы, а пазней кіраўніцы беларускіх эсэраў і міністра БНР Палуты Бадуновай.

**Гродна.** Гісторыкі зладзілі экскурсію з ускладаннем кветак. За ўдзельнікамі шпацыру сачылі людзі ў цывільным, здымалі на відэа.

**Мінск.** Актывісты «Маладой Беларусі» вывесілі бел-чырвона-белыя сцягі. На вуліцах горада з'явіліся графіці з віншаваннямі.

**Пружаны і Кобрын.** З Днём Волі жыхароў Пружан і Кобрына павіншавалі актывісты Моладзі БНФ. Вывесілі нацыянальныя сцягі.

**Баранавічы.** Актывісты ўсклалі кветкі да Крыжа ахвярам палітычных рэпрэсій, а таксама на могілках у Русіне.

**Мястэчка Бобр.** Пленэр пад бел-чырвона-белым сцягам у самым цэнтры паселішча зладзіў мастак Алесь Пушкін.

**Антверпен.** У Бельгіі мясцовыя беларусы прымалі землякоў з Францыі і Нямеччыны. Пасля малебна людзі накіраваліся на магілу раднага БНР Янкі Жучкі.

**Варшава.** На Дзень Волі тут зладзілі флэш-моб у рамках акцыі «Салідарныя з Беларуссю». 27 сакавіка прайшоў вялікі канцэрт, а ўсяго акцыя салідарнасці ахапіла 9 польскіх гарадоў.

**Вільня.** Дзень Волі другі год запар аб'яднаў сяброў Таварыства беларускай культуры і Згуртавання беларускіх грамадскіх арганізацый.

**Кіеў.** Пікет каля пасольства Беларусі правялі беларускія актывісты на чале з Вячаславам Сіўчыкам. Папулярнасцю карысталіся плакаты з надпісам «ШОС».

**Прага.** Беларусы Прагі вывесілі на дошцы аб'яваў пасольства Беларусі плакат «Свабоду палітвязням», а замест шыльдаў — надпіс «ШОС» і «Прэч» з карыкатурай на Лукашэнку.

**Севастопаль.** 25 Сакавіка каля плошчы Нахімава былі ўсталяваны бел-чырвона-белы сцяг і сімвалічны факел Свабоды.

**Таронта.** Дзень Волі канадскія беларусы адзначылі мітынгам на цэнтральнай плошчы. Сярод іншых выступала пісьменніца Вольга Іпатава. Прысутныя напісалі лісты палітвязням.

**Падрыхтаваў СП**



Не трэба траіх, каб пачаць. Мастак Алесь Пушкін з сынам на Дзень Волі арганізавалі ў родным Бабры пленэр пад бел-чырвона-белым сцягам. На мальберце — эскізны праект добраўпарадкавання цэнтра Бабра да яго 500-годдзя (2016 г.)

# Банкі перастаюць выдаваць крэдыты

Нервознасць на фінансавым рынку нарастае.

Нацбанк кінуў усе сілы, каб збіць імпарт. Гэта выклікала лёгкую паніку насельніцтва, якое кінулася скупляць даляры і еўра. У выніку парвалася там, дзе стала коратка. Банкі сутыкнуліся з дэфіцытам валюты, перастрахаваліся і спынілі частку валютных аперацый.

Першай ластаўкай стаў BelSwissBank, пра што «Наша Ніва» паведамляла ў папярэднім нумары. Швейцарскі банк паведаміў кліентам, што ўсе аперацыі будуць ажыццяўляцца ў рублях. Пачынанне падхапілі іншыя дробныя банкі, у якіх эстафету абмежаванняў прынялі і гіганты: «Белінвестбанк», «Прыёрбанк» і «БПС-Банк».

У беларускіх банкаматах больш нельга зняць валюту з картак у беларускіх рублях. «Белінвестбанк» пайшоў далей, увёўшы абмежаванне «даляр для сваіх». Уладальнікі валютных картак іншых банкаў не змогуць зняць валюту ў банкаматах «Белінвестбанка». Маўляў, нашай валюты не чапайце, яе і так мала.

Адна з самых устойлівых фінансавых установаў, БПС-Банк, які належыць расійскаму «Сбербанку», дзейнічае на апярэджанне, увогуле забараніўшы крэдытаванне фізічных асоб у беларускіх рублях. Калі выдача спажывецкіх крэдытаў і аўтакрэдытаванне прыпыненыя на тыдзень, то крэдытаванне жылля спынена на нявызначаны тэрмін. Шмат хто з беларусаў, скарыстаўшыся дэвальвацыйнымі чаканнямі, хуценька афармляў крэдыт, каб абмяняць атрыманыя грошы на даляры. Адгаваць давялося б пры новым курсе рубля, меркавалі яны.

Каб прыцягнуць дадатковую валюту, банкі павялічылі стаўку дэпазітаў у далярах і еўра — да 8-8,5%.

Шэраг камерцыйных банкаў заявілі, што і яны атрымлівалі ад Нацбанка рэкамендацыю не выдаваць кароткатэрміновыя крэдыты. Але паколькі рэкамендацыя не падмацаваная ніякімі нарматыўнымі дакументамі, канчатковае рашэнне банкі пакуль што не атрымалі. Прэс-служба Нацбанку ў асобе Анатоля Драздова заявіла, што «такога ліста не было».

Нацбанк па-ранейшаму вінаваціць у крызісе банкі, маўляў, тыя банальна «заціснулі» валюту і не прадаюць яе насельніцтву. Але праблема выявілася глыбейшай. Нацбанк апошнім часам напазычаў у банкаў так шмат валюты, што агульны памер даўгоў Нацбанка камерцыйным банкам нашмат перавысіў памер залатавалютных рэзерваў. На сёння Нацбанк вінаваты $4,4 мільярда пры адкладзенай валютнай «заначцы» ў $1,2 мільярда. Прычым сума запазычанасці вырасла за студзень—люты на $0,4 мільярда, нягледзячы на сігналы трывогі ад міжнародных фінансавых інстытутаў.

Праблемы на валютным рынку Беларусі звязаныя з рэзкім абвастрэннем дэфіцыту бягучага рахунку краіны. У выніку перадвыбарнага перагрэву эканомікі імпарт значна перавысіў экспарт. У той жа час магчымасць замежных запазычванняў зменшылася, бо памер замежнага доўгу дасягнуў значэння 50% ад ВУП.

**Яўген Васількоў, Сяргей Гезгала**

# Топ-10 навічкоў на беларускім рынку ў 2010 годзе

«Ежедневник» і часопіс «Бізнэс-рэвю» склалі спіс найбольш яркіх адкрыццяў.

### «Майкрасофт Софтвер Бел»

Сусветны гігант у сферы праграмнага забеспячэння Microsoft у пачатку 2010 года зарэгістраваў у Беларусі сваё афіцыйнае прадстаўніцтва «Майкрасофт Софтвер Бел», а ў канцы года прызначыў яго кіраўніком Міхаіла Маханька.

### «Маркс энд Спэнсэр Бел»

Ініцыятарам яго стварэння стаў эмігрант з Беларусі, бізнэсовец Кірыл Саўрасаў, сууладальнік пераетраховачнага брокера Beauchamp & Savrassov. У яго ўжо ёсць дастаткова вопыт развіцця франчайзінгавых праектаў на беларускім рынку. Адзін з іх – сетка крамаў тавараў для дзяцей і мам брытанскага брэнда Mothercare, якая складаецца на сённяшні дзень з пяці гандлёвых установаў.

### «МАЗЗ БАЗЗ франчайзінг»

Аўстраліец Уорэн Рэйналдс пабачыў за тысячы кіламетраў перспектывы для свайго бізнэсу – сеткі прыдарожных кавярняў. Гэта першы аўстралійскі бізнэсовец, які інвестуе ў Беларусь.

### Парфумерна-касметычная фабрыка «Свабода»

Браты-бельгійцы Жорж Эмануэль, Аліўе і Нікаля Артызы ў пачатку 1990-х пасяліліся ў Літве і стварылі сетку крамаў Iki. У 2008 годзе яны прадалі 80% свайго бізнэсу панеўрапейскаму кааператыўнаму аб'яднанню Coopernic. Частку грошай ад продажу крамаў браты цяпер укладаюць у беларускую парфумерна-касметычную галіну.

### Страхавое таварыства «Росгосстрах»

Яшчэ адзін сямейны бізнэс, гэтым разам расійскі, адкрыў сваё дачынае прадпрыемства ў Беларусі ў страхавым сектары. Гэты бізнэс належыць адным з найбуйнейшых расійскіх страхавальнікаў – братам Данілу і Сяргею Хачатуравым.

### «Пекін Юні-Белканстракшн»

Дачынае прадпрыемства кітайскага дзяржаўнага будтрэста BUCC хоча здзейсніць у Беларусі сапраўдную інфраструктурную рэвалюцыю.

Гэтая невялічкая ў сябе на радзіме будаўнічая кампанія атрымала права на будаўніцтва найважнейшых аўтамагістраляў, сеткі развязак ў Мінску, гатэля «Пекін», рэканструкцыю стадыёна «Дынама» і ўзвядзенне беларускага «Чайна-тауна».

### «Газпромтрансгаз-Захад»

Гэтая дачынная кампанія «Газпрома» будзе абслугоўваць газаправод «Ямал—Еўропа». Раней, ад пачатку яго эксплуатацыі, ён абслугоўваўся «Белтрансгазам» («Газпром» плаціў за гэта беларусам грошы).

### «Вічунай Бел» і «Вічунай Лагістык»

Два беларускія праекты (адзін па вытворчасці сурымі, іншы па яго прасоўванні) літоўскі бізнэсовец Вісвальдзіс Матыёшайціс абяцае запусціць да канца 2011 года.

### «Белмарфлот»

Скарыстаўшыся сваёй трывалай бізнэс-базай у Беларусі (гандаль, банк, страхавая і лізінгавая кампаніі) і невыкараняльнай марай беларусаў аб выхадзе да мора, уладальнік групы Zepter Філіп Цэптэр зарэгістраваў кампанію, якая распачала марскія перавозкі беларускіх грузаў. Пакуль гэта калійныя ўгнаенні.

### «Волат-Санцзянь»

З 1997 года ў кітайскім горадзе Сіягань паспяхова працуе сумеснае прадпрыемства Мінскага завода колавых цягачоў і аб'яднання «Санцзянь» пры Кітайскай групавой кампаніі касмічнай прамысловасці – «Санцзянь-Волат Кампані Лтд.».

А ў канцы 2009 года партнёры вырашылі (у пачатку 2010 года гэта рашэнне было аформлена ў юрыдычную асобу), што ёсць сэнс частку вытворчасці для сумеснага праекта лакалізаваць на тэрыторыі Беларусі. Прадпрыемства будзе выпускаць гідрамеханічныя трансмісіі ў Мінску.

**СГ**



**Кампанія «Трайпл» Юрыя Чыжа (на фота) можа трапіць пад санкцыі ЕС. Еўрапейцы падазраюць, што «Трайпл», «Белтэхэкспарт» і «Белнафтахім» фінансуюць Аляксандра Лукашэнку.**

# «Белнафтахім» абмяжаваў продаж дызпаліва

У адныя рукі — не больш за 100 літраў.

Канцэрн «Белнафтахім» абмежаваў продаж дызельнага паліва на 34 запраўках, размешчаных непадалёку ад мяжы. Такія меры прынятыя, каб «не дапусціць далейшага павелічэння вывазу за мяжу бензіну і дызельнага паліва, набытых на беларускіх АЗС, і прычыненні шкоды эканоміцы краіны».

Як тлумачыць прэс-служба арганізацыі, розніца ў коштах на аўтамабільнае паліва ў Беларусі і суседніх краінах абумовіла значны рост яго рээкспарту ў прымежных раёнах краіны. «А гэта, у сваю чаргу, прыводзіць да павелічэння кошту расійскай нафты», — каментуе сітуацыю «Белнафтахім». Тлумачэнне прасякнутае духам сацыяльнай нянавісці да кіроўцаў «бензавозаў»: «Ад незаконнай дзейнасці некаторых грамадзян, якія займаюцца вывазам паліва за межы краіны, матэрыяльную шкоду атрымлівае большасць беларускага насельніцтва».

Абсурднасць сітуацыі ў тым, што прынамсі 60% у кошце паліва — фактычна падатак, грошы ад якога ідуць у бюджэт краіны. З кожнага прададзенага за 3000 рублёў літра бензіну А-92 бюджэт атрымлівае каля 2000 рублёў! Цяпер ад гэтага прыемнага бонуса вырашана адмовіцца.

Выглядае неверагодным і выкананне праекту — прадаваць «у адныя рукі» не больш за 100 літраў. Кіроўцы проста становяцца яшчэ раз у чаргу па дызпаліва ці дазапраўляюцца на суседняй АЗС.

**ЯВ**

## Сцісла

- **Лукашэнка: «Мы жывём не па сродках».** Беларускія прадпрыемствы павінны прыцягваць у краіну больш валюты. Такую задачу ставіць ім кіраўнік дзяржавы. «Мы купляем больш, чым вырабляем і прадаём. Вось адна праблема. Таму, дарагія мае, купілі нафту, газ, металы і іншае, калі ласка, столькі ж з краіны вывезці і прадаць за валюту. Вось тады мы будзем жыць нармальна!» — павучае ён.
- **«Беларусбанк» выпусціць еўраабліґацый на $500 мільёнаў.** Тэрмін хаджэння папер складзе тры гады. Старшыня праўлення банка Надзея Ермакова назвала цяперашнія ўмовы размяшчэння абліґацый неспрыяльнымі, але выказала спадзяванне, што такая сітуацыя будзе не ўвесь год. Раней грошы пазычаў урад, цяпер гэтую задачу перакінулі на прыдзяржаўныя камерцыйныя банкі.
- **Электрычкі падаражэлі на 14%.** Тарыфы на перавозкі пасажыраў павялічаныя з 440 да 500 рублёў за адну зону і з 44 да 50 рублёў за кіламетр праезду. Ранейшыя тарыфы дзейнічалі з лістапада 2006 года.
- **Да канца красавіка хлеб падаражае на 10%?** Падаражанне прадугледжана рашэннем Міністэрства эканомікі.
- **Пластыкавы апакаліпсіс.** У мінулы чацвер на цэлую гадзіну ва ўсёй краіне адключыліся банкаматы, што выклікала паніку сярод насельніцтва. Кампанія «Банкаўскі працэсінгавы цэнтр», якая займаецца абслугоўваннем апаратаў, заявіла, што прычынай адключэння стаў не тэхнічны збой, а прафілактыка.

**ЯВ**

# Пацярпелы Лукашэнка. Крымінальная справа №11025190007

На журналіста Пачобута завялі крымінальную справу за «абразу Лукашэнкі».

Пракуратура мае да яго прэтэнзіі за артыкулы ў польскай Gazeta Wyborcza, на сайце «Белорусскій партізан» і ў блогу.

18 сакавіка пракурор Гродзенскай вобласці Марозаў В.М. завёў супраць журналіста Андрэя Пачобута крымінальную справу. Журналіста абвінавацілі па ч.1 арт. 368 КК «Абраза прэзідэнта РБ». Пра крымінальную справу Пачобуту 28 сакавіка паведаміў у абласной пракуратуры следчы па найважнейшых справах Арсень Нікольскі.

Як паведаміў «Нашай Ніве» Андрэй Пачобут, у пракуратуры яго спрабавалі дапытаць у якасці падазраванага, але ён адмовіўся, заявіўшы, што будзе даваць тлумачэнні толькі ў судзе. «Магчыма, пад уплывам падзей вакол Міхалевіча, але ў пратаколе было пазначана, што на мяне ў ходзе размовы не аказваўся ціск», — кажа журналіст. Андрэй мяркуе, што яго могуць кінуць за краты, але не збіраецца з'язджаць з Беларусі. Будзе працаваць — пісаць.

Gazeta Wyborcza аператыўна зрэагавала на падзеі ў Беларусі. На сайце выдання ў найгалоўным у той жа дзень з'явіўся артыкул пра беларускага карэспандэнта. У ім былі змешчаныя спасылкі на «абразлівыя» артыкулы журналіста.

Нагадаем, што раней за «абразу» кіраўніка краіны былі асуджаныя журналісты Мікола Маркевіч, Павел Мажэйка, Віктар Івашкевіч, палітык Андрэй Клімаў, прадпрымальнікі Валер Леванеўскі і Аляксандр Васільеў, праваабаронца Кацярына Садоўская.

Андрэй Пачобут пайшоў на прынцыповае супрацьстаянне з КДБ два месяцы таму. 8 студзеня журналісту выпісалі афіцыйнае папярэджанне пра недапушчальнасць супрацьпраўных дзеянняў (удзел у несанкцыянаванай акцыі 19 снежня) за подпісам начальніка Упраўлення КДБ па Гродзенскай вобласці Івана Каржа.

Пачобут сцвярджае, што пры гэтым супрацоўнікі гродзенскага КДБ пагражалі яму і некалькі разоў ўдарылі па галаве. Ён падаў скаргу на дзеянні кадэбістаў у вайсковую пракуратуру.

Вынікам настойлівасці журналіста стала серыя праверак і медычных экспертыз.

Хоць пракуратура не пабачыла парушэнняў у дзеяннях КДБ, але камітэтчыкам прыйшлося адказваць на непрыемныя пытанні, а таксама «засвяціць» свае імёны ў прэсе.

КДБ адпомсціла Пачобуту па-свойму: яго затрымалі ў Гродне і даставілі ў Мінск на суд за падзеі 19 снежня, калі ён быў затрыманы. Суддзя абмежавалася штрафам, але справу вярнулі на перасуд. Другі раз упяклі ўжо на 15 сутак.

Адначасова з журналістыкай Андрэй Пачобут займаецца і грамадскай дзейнасцю: ён адзін з лідараў Саюза палякаў. Па адукацыі ж Пачобут — юрыст.

Свае «палітычныя прыгоды» Пачобут успрымае з гумарам.

Нават зняволенне на Акрэсціна ён знайшоў пазнавальным: «З рэцыдывістамі можна размаўляць на розныя тэмы — у турмах яны шмат чытаюць. Некалі я чытаў у Пясэцкага пра крымінальнікаў пачатку XX ст., а тут пазнаёміўся з крымінальным светам пачатку XXI-га».

**Сямён Печанко**



## Пачобут: Гатовы адказваць па ўсёй строгасці

Якія прычыны стаяць за справай аб «абразе»? Піша сам **Андрэй Пачобут**.

Па-першае, асабістыя. Вельмі ж палкія пачуцці выклікае мая асоба ў людзей з пагонамі. Інфармаваныя крыніцы кажуць, што маё прозвішча здольнае выклікаць у сілавікоў скрыгат зубоў, міжвольныя цікі, у найбольш слабанервовых мелі месца нават выпадкі заікання. Праверку, вынікам якой стала крымінальная справа, праводзілі «гламурныя зайцы» [так журналіст у сябе ў блогу празваў аператыўнікаў УКДБ па Гродзенскай вобласці па іх паводзінах у часе допыту]. Таму спісваць з рахунка элемент асабістай помсты я б не стаў.

Па-другое, міжнародныя. У двухбаковых беларуска-польскіх адносінах Саюз палякаў, дзе я з'яўляюся старшынёй Галоўнай Рады, даўно разглядаецца «ўзброенымі халопамі Аляксандра Рыгоравіча» як патэнцыйны заложнік. Польшча нам санкцыі? А мы вам палякаў прыдушым!

І па-трэцяе, інтэрнэтаўскія. Яшчэ 20 снежня на сваёй трыумфальнай прэс-канферэнцыі з нагоды чарговай «элегантнай перамогі» Лукашэнка паабяцаў навесці парадак у інтэрнэце.

— Мы гэтага не рабілі да выбараў, далі вам поўную свабоду. Але за гэтую свабоду вы будзеце адказваць. Усё, што там будзе напісана, і ўсе ўкіды — вы будзеце за гэта адказваць. Вы павінны несці адказнасць за свае словы. Калі абражаеце — трэба адказваць, — грозна заявіў ён.

Аляксандр Рыгоравіч, дарагі ты мой пацярпелы, за свае словы і ўчынкі я гатовы адказваць, што завецца, па ўсёй строгасці. Як кажуць, «мы за цаной не пастаім». Спадзяюся, што прыйдзе час і па ўсёй строгасці прыйдзецца адказаць за тое, што адбываецца ў Беларусі апошнія 16 гадоў, і былому прэзідэнту Рэспублікі Беларусь Лукашэнку А. Р.

# Дзясяты асуджаны за Плошчу: Мікіта Ліхавід

20-гадовы актывіст Руху «За Свабоду» атрымаў тры з паловай гады турмы.



Чатыры пасяджэнні спатрэбіліся суддзі Партызанскага раённага суда Мінска Наталлі Пыкінай, каб прыгаварыць 20-гадовага актывіста Руху «За Свабоду» Мікіту Ліхавіда да трох з паловай гадоў пазбаўлення волі ў калоніі строгага рэжыму.

Вечарам 29 сакавіка яна абвясціла прысуд.

Пракурор Антон Загароўскі прасіў больш — чатыры гады. Ён настойваў на цяжкім характары правапарушэння і абапіраўся на паказанні трох дзясяткаў спецназаўцаў, якіх прызналі пацярпелымі ад дзеянняў «бясчынствуючай талпы».

Працэс пачаўся 22 сакавіка. Ён адразу прыцягнуў да сябе ўвагу — абвінавачанне заявіла аж 29 пацярпелых — усе як адзін спецназаўцы, байцы мінскага ПМСП. І хоць адвакатцы Ліхавіда Дар'і Ліпкінай удалося даказаць, што толькі невялікая частка з іх можа насамрэч падцвердзіць свае траўмы дакументальна, спецназаўцы працягвалі спраўна расказваць, як іх білі дэманстранты на плошчы Незалежнасці ў вечар выбараў.

Пацярпелых было так шмат, што толькі іх апытанне заняло два дні працэсу. Адвакат Ліпкіна першапачаткова прыдзірліва распытвала кожнага байца ПМСП аб усіх падрабязнасцях паказанняў, дадзеных імі следству, але калі праз такую руплівасць атрымала адразу некалькі папярэджанняў ад суддзі, то была вымушаная задаволіцца меншай колькасцю пытанняў.

Аднак і іх хапала — спецназаўцы блыталіся ў паказаннях, а сведка — Аляксандр Багданаў — нават публічна ў зале суда прызнаў, што складаў пратакол затрымання Мікіты Ліхавіда, не затрымліваючы яго **(падрабязней — на старонцы 6)**.

Усё гэта не дапамагло. Некалькіх імгненняў відэазапісу, падчас якіх бачна, што Мікіта наносіць удары ў драўляныя шчыты за разбітымі вокнамі Дома ўрада, было дастаткова, каб асудзіць яго на немаленькі тэрмін. Становчыя характарыстыкі пяці сведкаў, сярод якіх быў і Аляксандр Мілінкевіч, не былі ўзятыя пад увагу.

У заключнай прамове адвакатка Д. Ліпкіна спрабавала звярнуць увагу суддзі, што факт масавых беспарадкаў у Мінску вечарам 19 снежня не даказаны, як і факт знішчэння яе падабаронным дзяржаўнай маёмасці. Завяршэнне прамовы нават было сустрэтае апладысментамі парваабаронцаў і родных Ліхавіда.

Аднак прысуд быў жорсткі.

**Алесь Пілецкі**

# Лук'янаў: Расія будзе ставіць усё больш жорсткія ўмовы

Галоўны рэдактар часопіса «Россия в глобальной политике» **Фёдар Лук'янаў** пракаментаваў для «НН» апошнія тэндэнцыі ў беларуска-расійскіх адносінах.

**«Наша Ніва»: Ці працягне Расія фінансаванне беларускай улады?**

Фёдар Лук'янаў: Думаю, што новыя крэдыты з'явяцца. Толькі што ўмовы будуць усё больш жорсткімі. Замежныя донары, міжнародныя арганізацыі ж таксама выдзяляюць грошы пад пэўныя ўмовы рэфармавання ў гаспадарцы, якія адпавядаюць задачам крэдытарам. Гэта робіцца для таго, каб была большая імавернасць вяртання гэтых крэдытаў. Напэўна, час бязвыплатнай, палітычна матываванай дапамогі канчаецца. Цяпер прыспела пара такіх прагматычных стасункаў.

**«НН»: Фінансуючы Лукашэнку, Расія імкнецца да ўмацавання залежнасці Беларусі?**

**ФЛ:** Я б не ставіў так пытанне. Масква імкнецца да ўмацавання і развіцця тых праектаў, што здзяйсняюцца ў рамках адносін Расіі, Беларусі і Казахстана. Гэта найперш ідэі Мытнага саюза. Натуральна, што Масква будзе настойваць на ўмовах выгадных для сябе, а задача Мінска — выбіванне ўмоваў, выгадных для ўсіх удзельнікаў. Мяркую, што бакі будуць таргавацца да апошняга. Але ў гэтым няма нічога кепскага.

**«НН»: Ці ёсць такі варыянт, што Расія зусім адмовіць Лукашэнку ў грошах?**

**ФЛ:** У выпадку вострага палітычнага канфлікта — так. Але думаю, што ініцыяваць гэта можа толькі сам Лукашэнка. Беларускі лідар — чалавек азартны, ён не баіцца ісці на абвастрэнне. Калі ж гэта не будзе пераходзіць межаў звычайнага торгу, то нічога не зменіцца.

**Гутарыў ЗП**

**«ЕС разглядае магчымасць «кропкавых і разумных эканамічных санкцый» да рэжыму Лукашэнкі»**, — заявіў на «Брусэльскім форуме» еўракамісар Штэфан Фюле.

Упершыню пра эканамічныя санкцыі загаварылі на такім высокім узроўні.

**СГ**

# Галасы з-за сценкі

**Палітычны працэс над Дашкевічам і Лобавым пабіў усе рэкорды ў цынізме.**

Лідара Маладога фронту (МФ) Змітра Дашкевіча затрымалі за дзень да прэзідэнцкіх выбараў. Вось зноў абвінавацяць у брыдкаслоўі, падумалася шмат каму. З кім з апазіцыянераў такога не бывала за апошнія 17 гадоў перад буйнымі вулічнымі акцыямі ці выбарамі. Дашкевічу дакладна ўжо не звыкацца.

На справе ж выйшла ўсё змрочна. Выбары мінулі, а выпускаць Дашкевіча ніхто не збіраўся. Яго, а таксама старшыню мінскай гарадской арганізацыі МФ Эдуарда Лобава, абвінавацілі ў збіцці двух выпадковых грамадзян. Гэта асабліва злоснае хуліганства. Тэрмін зняволення да дзесяці гадоў.

Да суда Дашкевіч з Лобавым знаходзіліся ў жодзінскім СІЗА. Распаўсюджваліся чуткі, што Зміцер нават узяў на сябе частку віны, каб на волі апынуліся іншыя маладафронтаўцы. Яны так і не пацвердзіліся. Найбольш справу ўскладняла тое, што ў ёй пачала фігураваць манціроўка ў руках Лобава. За час следства Дашкевіч страціў свайго адваката Паўла Сапелку, якога пазбавілі ліцэнзіі.

Справу 22 сакавіка пачала разглядаць суддзя Маскоўскага суда Алена Шылько. За ёй замацавалася слава не вельмі жорсткай суддзі. У 2006 годзе яна разбірала справу кіроўцы Казуліна Юрыя Радзівіла. Калі той не падпарадкаваўся камандам спецбрыгады «Алмаз». Радзівіл тады атрымаў максімальна мяккі прысуд — тры месяцы, якія ён ужо адседзеў падчас папярэдняга следства.

Дашкевіч ужо ў першай сваёй прамове паспеў назваць гэты працэс цыркам і вельмі прасіў не зацягваць, скончыць усё за адзін дзень.

Суд насамрэч у некаторых момантах нагадваў фарс. Ну вось як па-іншаму назваць паказанні «пацярпелых», што нават не з'явіліся ў судзе, а адказвалі на пытанні з-за сценкі. Пашпартоў іхніх таксама не бачыў ніхто, апроч суддзі.

Мяркуйце самі. «Пацярпелыя», Алег Малышаў і Канстанцін Савіцкі, не працуюць і ніколі ў жыцці (!) не працавалі. Хоць абодвум каля 30 гадоў.

Пры гэтым адзін нібыта даехаў на папутцы да месца бойкі з праспекта Дзяржынскага за 7 тысяч, другі з цэнтра, таксама на папутцы, за 25 тысяч. Вы часта карыстаецеся ў гарадах папуткамі?

Потым яны нібыта выпадкова сустрэліся ў адным з двароў на вуліцы Янкі Брыля. Стэлефанавацца па мабільніку яны таксама не маглі, бо Савіцкі «адмаўляе дасягненні сучаснай тэхнічнай навукі».

— Дзе ж вы бераце грошы на кафэ, калі не працуеце? — запыталася адвакатка Мар'яна Сямешка.

> «Пацярпелыя» Алег Малышаў і Канстанцін Савіцкі за свае 30 гадоў ніколі (!) не працавалі.

— Бог дае, — адказаў Савіцкі.

І вось гэтая салодкая парачка падышла да Дашкевіча, каб запытацца, дзе тут прыпынак і папрасіць закурыць. Ну а пасля, па словах пацярпелых, Зміцер нанёс Савіцкаму ўдар у жывот. Пачалася бойка. Вось тут і з'явілася манціроўка ў руках Лобава.

Дашкевіч пацвярджае, што Савіцкі і Малышаў сапраўды папрасілі закурыць, але першымі ўдары наносілі менавіта «пацярпелыя». І вось тут мы падступаем да другога цікавага моманту справы. У той самы момант на месца бойкі падыходзіць Ігар Каравы. Ён звычайны аўтаслесар, што жыве ў гэтым раёне. Каравы спрабуе развесці патасоўку.

На судзе Каравы дае сведчанні, якія цалкам супадаюць з тымі, што раней даваў Дашкевіч. Слесар расказвае, што бачыў двух людзей у снезе. Верхні (Малышаў) наносіў удары ніжняму (Дашкевічу). Пры гэтым Зміцер спрабаваў толькі адбівацца. З манціроўкай у гэты момант хадзіў зусім не Лобаў.

І пракурор, і суддзя спасылаліся на папярэднія паказанні Каравага, дзе ён казаў зусім процілеглае. Не, хлопец працягваў настойваць на сказаным у судзе, што толькі гэтая версія адзіная правільная.

Але ніхто паказанняў Каравага не ўлічыў.

Пракурор Мазоўка здзіўлена пытаўся ў Дашкевіча: «А вы хіба палітыкай займаецеся?» Нібыта і не ведаў.

Адвакаткі Сямешка і Аўсяннікава ўпарта змагаліся за сваіх падабаронных. Іх ніхто не слухаў.

24 сакавіка былі зачытаны прысуд. Дашкевіч атрымаў два гады калоніі агульнага рэжыму, Лобаў — чатыры строгага.

«Гэтым судзілішчам нас не спыніш. Мы толькі больш аддана будзем рэалізоўваць сваю справу», — сказаў у апошнім слове Дашкевіч.

«Адсядзім», — коратка рэзюмаваў прысуд Зміцер.

**Зміцер Панкавец**

**Зміцер Дашкевіч**

нарадзіўся ў 1981 у Івацэвічах. Да пяці гадоў жыў на Далёкім Усходзе, а потым — у Старых Дарогах. Вучыўся ў Гродзенскім сельскагаспадарчым інстытуце, але быў адлічаны за палітычную дзейнасць. Скончыў аддзяленне беларусістыкі Віленскага педагагічнага. Ад 2004 — старшыня Маладога Фронту. У 2006 асуджаны за ўдзел у незарэгістраванай арганізацыі. Адседзеў амаль паўтара года.

**Эдуард Лобаў**

нарадзіўся ў 1988 у Мінску. Заўсёды цікавіўся войскам. Трапіў на службу ў віцебскі дэсант, дзе пазнаёміўся з маладафронтаўцам Андрэем Цянютам. Пасля дэмабілізацыі далучыўся да МФ. Узначальваў мінскую гарадскую арганізацыю.



**Адвакатка Змітра Дашкевіча (злева) Мар'яна Сямешка прыцiснула сваімі пытаннямі «сведкаў» да сценкі.**



**Мама Эдуарда Лобава збляднела ад перажывання за сына.**



**Тата Змітра Дашкевіча Вячаслаў.**

# Неаднолькавыя спецназаўцы

**Журналіст «Нашай Нівы» тры дні назіраў байцоў ПМСП зблізку — у зале суда.**

Калі на другі дзень суда над грамадзянамі Расіі Іванам Гапонавым і Арцёмам Брэусам у зале з'явілася 15 спецназаўцаў, якія нібыта пацярпелі ад дзеянняў дэманстрантаў у дзень выбараў, шмат хто ўспрыняў гэта як жарт. На працэсе 20-гадовага Мікіты Ліхавіда колькасць пацярпелых спецназаўцаў вырасла ўдвая — да 29.

Не ўсе з іх давалі аднолькавыя паказанні. Адзін увогуле адмовіўся называць сябе пацярпелым.

## Час ад каманды да каманды

«— Ну что, нашёл орієнтацію? — Я такой ху...ні не пі...ел. Это следакі-му...кі напісалі. Я десять лет проработал, і нікогда нічё такого со мной не было...» Гэтак у перапынку байцы палка міліцыі спецыяльнага прызначэння ГУУС Мінгарвыканкама абмяркоўвалі свае паказанні. На саміх пасяджэннях яны самі часам гучна смяяліся з блытаніны, якая неслася з вуснаў іх таварышаў. Суддзя Наталля Пыкіна тройчы рабіла ім заўвагі: «Пацярпелыя, вам што, весела?»

Ім насамрэч было весела. «Я получал пріказы от радіостанціі», «часов не ношу, ізмеряю время от команды — до команды», «я зашчішчал Дом Правітельства, стоя на месте і крепко держа шчіт...» Нават родныя Мікіты Ліхавіда, якім на працэсе было зусім не да жартаў, смяяліся разам з усімі з такіх «паказанняў».

## Чорныя курткі, лакавыя туфлі

Спецназаўцы маюць свой дрэс-код: чорныя курткі, джынсы, бліскучыя туфлі з вострымі насамі. Адукацыя эліты спецсілаў — сярэдняя, сярэдне-спецыяльная, базавая. Між сабой гавораць з выкарыстаннем нецэнзурнай лексікі — відаць, з ёй ніхто не змагаецца.

Пра ўзровень іх заробкаў можна меркаваць па тым, што ад Дома правасуддзя байцы раз'язджаліся на новых аўтамабілях, і гэта зусім не «Саманды».

Службовы аўтатранспарт — найчасцей новыя «Фальксвагены». Дарэчы, на металашукальніках, якімі міліцыя старанна правярае сваякоў абвінавачаных і журналістаў у зале суда, красуецца надпіс «Made in U.S.A.».

## Адзін на 29

Падчас працэсу Ліхавіда толькі адзін з амаль трох дзясяткаў спецназаўцаў — Дзмітрый Лявіцкі — адмовіўся прызнаць сябе пацярпелым ад дзеянняў дэманстрантаў. І нават нягледзячы на тое, што ў матэрыялах следства ўжо былі пазначаныя ўсе акалічнасці атрымання ім траўмы менавіта ад дэманстранта. Адказваючы на пытанні суддзі, адваката і пракурора Лявіцкі заявіў, што дэманстранты штурхнулі яго ненаўмысна, калі іншыя спецназаўцы валаклі іх у аўтазак. Ён настойваў на гэтым нават тады, калі суддзя зачытала матэрыялы следства і ён прызнаўся, што падпісваў свае паказанні пасля беглага прагляду тэксту. А потым увогуле заявіў, што не бачыў, каб дэманстранты 19 снежня 2010 года на плошчы Незалежнасці ўжывалі

# Павал Севярынец. Лісты з сэрца



**«Наша Ніва» атрымала першы ліст ад палітвязня Паўла Севярынца — свайго даўняга аўтара.**

Павел пацвердзіў, што пасылка да яго дайшла ад Рэдакцыі — амаль праз два месяцы пасля яе адпраўлення. «Дзякуй агромністы за клопат! — піша ён. — Не турбуйцеся, калі ласка, мне ўсё перадаюць сваякі, браты і сёстры».

«Увогуле, апошнія некалькі тыдняў абстаноўка нармалёвая, — працягвае Севярынец, — дзякуй Богу, бачыце, і лісты даходзяць. XXXXX XXX X XXXX XXX XXXXXX XXX XXXX» [наступны сказ выкраслены цэнзарам — Рэд.].

Ліст датаваны 16 сакавіка, і сказ «апошнія некалькі тыдняў абстаноўка нармалёвая» можа азначаць, што стаўленне да вязняў змянілася пасля таго, як 28 лютага Алесь Міхалевіч зрабіў сенсацыйныя прызнанні пра катаванні ў турме КДБ.

«Зычу Вам, Вашай сям'і і Нашай газеце дабраславеннях і ласкі Божай! — піша Севярынец рэдактару «НН», — Дзякуй вялікі за Вашу прапанову [пісаць для «НН» матэрыялы мастацкага ці філасофскага характару, якія маглі б праходзіць праз цэнзуру]. Паспрабую падзяліцца ўражаннямі. Спадзяюся, прапусцяць.

Пастараюся пісаць з с э р ц а («з лесу» ўжо было, тут усё-такі не лес — самае сэрца сталіцы) [маецца на ўвазе цыкл артыкулаў «Лісты з лесу», які Севярынец дасылаў у «Нашу Ніву» са ссылкі з Малога Сітна і за які ён атрымаў пасля вызвалення літаратурную прэмію імя Алеся Адамовіча].

Публікуем ліст Севярынца без скаротаў і зменаў. Ён адрэдагаваны толькі рэдактарам з КДБ. Словы, выкрасленыя цэнзурай, пазначаны літарамі XXX.

Здаецца, кагэбісты крэслілі ўсё, у чым бачылі таемны намёк. Гэта свайго роду цуд, што мы атрымалі гэты ліст 24 сакавіка, перад самым Днём Волі. «З Богам!» — сканчае свой ліст Севярынец.



**Павал Севярынец. Лісты з лесу. — Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2007.**

Кніга Паўла Севярынца, складзеная з артыкулаў, напісаных ім падчас знаходжання на «хіміі» ў вёсцы Малое Сітна Полацкага раёна і надрукаваных на старонках «НН». Кніга выйшла ў серыі **«Кнігарня «Наша Ніва»**.

## Ліст №1. Сам-насам з Богам

Піша **Павал Севярынец**.

Калі Бог хоча сур'ёзна пагаварыць з табою Сам-насам, Ён не будзе тлумачыць нешта мімаходзь, напаўвуха, займаць паўгадзінкі твайго часу на кухні ці ў офісе, дзе ты думаеш адкупіцца мітуслівай і наморшчанай малітвай, не стане шпурляць наўздагон табе знакі ды цуды — Ён проста дасць табе змарыцца ад уласнай сумятні да поўнага тамлення духу, а потым моўчкі ўвойдзе і зачыніць за Сабой дзверы.

І толькі тады, XXXXXX XXXXX [выпэцкана цэнзурам] баючыся падняць вочы, ліхаманкава спрабуючы адкашляцца і зрабіць гатоўны выгляд, ты пачуеш гэтае непаўторнае, ні з чым не параўнальнае чакальнае і дакорлівае Божае маўчанне.

Э-а... Госпадзе... Ну, ты Сам усё бачыў, праўда?.. Што тут сказаць. Прабач, канечне. Прабач. Вядома, я мусіў сам здагадацца, у царкве раз на тыдзень як след асабіста не паразмаўляеш. Тут было столькі справаў, Ты проста не паверыш...

Відовішча жаласнае, і, тлеючы ад сораму, разглядаючы мыскі ўласных ботаў, разумееш, што Яму не гэтае ганьбішча трэба, не тваё дзіцячае лепятанне і не насякомыя ў тваіх мазгах. Ён не выбаршчык, не журналіст, не дыпламат, не супрацоўнік унутраных органаў, і не на добрыя міны пры кепскай гульні глядзіць. (Ён кардыёлаг увогуле.) [Апошні сказ закрэслены — няясна, ці то гэта такая гульня са стылем, ці аўтар пажадаў выдаліць яго.]

Таму Ён маўчыць — і цярпліва чакае, пакуль ты перастанеш мітусіцца і нарэшце здымеш з шыі свой срэбны ключык у форме крыжа.

Госпадзе, ты дакладна хочаш паглядзець маё сэрца?..

Нібыта з таго свету чуеш сваё мармытанне: здаецца, павінна быць больш-менш, прынамсі, нічога страшнага. Ты ж быў зазірнуў пару дзён таму і маўчаў, я і падумаў.... Ну прабач...

Крыжык заядае ў заржаўленай ключавіне. Рукі трасуцца, прыкра крэкчаш, спрабуеш павярнуць... і з затхлым душком здагадваешся, што насамрэч XXXX справы дрэнь, хоць і не адчыняй зусім. О, не, не, Госпадзе, не дакранайся, не трэба, я сам, са-ам!

Тут ужо не зманіш — уласнае сэрца ўсё-такі.

Даруй, Божа! Сюды, канечне, не тое, што зайсці, а і стаяць побач немагчыма. XXXX XXXXXXX XXX XXXX. Зараз... Хто б мог падумаць, мг... Пастараюся дакапацца.

Сцяўшы дыханне, залазіш, спярша навобмацак, потым з галавою, жахаешся, клянеш сябе — і пачынаеш вывальваць, куды тут... смярдзючыя грахі, нейкія шыльды і адсоткі ўперамешку з газетамі ды плакатамі, падгнілую пыху і марнаслоўе, груды скамячаных, у нервовую клетку, размоваў з бацькамі, братамі і сёстрамі, тоны павышанага тону і шматкі неператраўленага сеціва, усе ў пляўках рэплікаў, развітанні на вецер і раздражнёныя вокрыкі, маладушныя стогны; столькі сказанага і не зробленага, столькі забытых і пакрыўджаных душаў, суцэльная млявасць і абыякавасць да жыцця і, нарэшце, агульная разгубленасць — ох і правалы, ніяк не выграбеш да дна.

А Ён проста стаіць перад табою, трывае і маўчыць, як маўчаў калісьці перад Пілатам. І ты разумееш, што Яму так балюча, і гарыш, і баішся зірнуць і ўбачыць у гэтым вечным маўклівым Позірку слёзы, слёзы!.. З якіх ты ніводнай слязінкі не варты.

І раптам, каўтаючы соль, ачомваешся ад званоў з Пляца Волі.

Сабор. Ратуша.

Пранізліва і мерна.

Раптам згадваеш, што ты ў самым-самым сэрцы Мінска. Такое месца!

Колькі часу трэба яшчэ — месяц, год, дзесяць, — каб навучыцца з гэтага п а ч ы н а ц ь, а не з а к а н ч в а ц ь?

І тады ты даеш абяцанне пачаць усё зноў і вырашаеш абысціся без лішніх словаў — каб Нарэшце Пачуць ЯГО.



Вітаю Вас, шаноўны спадар Андрэй!

Вялізны дзякуй Вам за ліст!
Значыць, пасылка за прозвішчам „Данько" ўсё-такі была ад Вас :). Дзякуй агромністы за клопат! — не турбуйцеся, калі ласка: мне ўсё перадаюць сваякі, браты і сёстры.
Увогуле, апошнія некалькі тыдняў абстаноўка нармалёвая — дзякуй Богу, бачыце, і лісты даходзяць. [redacted]
Зычу Вам, Вашай сям'і і Нашай газеце дабраславенняў і ласкі Божай!
Дзякуй вялікі за Вашу прапанову. Паспрабую падзяліцца ўражаннямі. Спадзяюся, прапусцяць. Пастараюся пісаць з с э р ц а („з лесу" ужо было, тут усё-такі ня лес — самае сэрца сталіцы).

САМ-НАСАМ З БОГАМ

Калі Бог хоча сур'ёзна пагаварыць з табою Сам-насам, Ён не будзе тлумачыць нешта мімаходзь, напаўвуха, займаць паўгадзінкі твайго часу на кухні ці ў офісе, дзе ты думаеш адкупіцца мітуслівай і наморшчанай малітвай, ня стане шпурляць наўздагон табе знакі ды цуды — Ён проста дасць табе змарыцца ад уласнай сумятні да поўнага тамлення духа, а потым моўчкі ўвойдзе, і зачыніць за Сабой дзверы.
І толькі тады, [redacted] баючыся падняць вочы, ліхаманкава спрабуючы адкашляцца і зрабіць гатоўны выгляд, ты пачуеш гэтае непаўтор-

фізічную сілу ў дачыненні да супрацоўнікаў міліцыі. Такія паказанні выклікалі хвалю адабрэння.

### Далі па галаве, забыўся пра нагу

А вось калега Лявіцкага, супрацоўнік ПМСП Аляксандр Багданаў, у матэрыялах следства значыўся як асоба, якая затрымлівала Ліхавіда на Плошчы, а пасля складала пратакол. Аднак суддзя Багданаў заявіў, што Ліхавіда ён не затрымліваў, пабачыў яго толькі на Акрэсціна, а ў дадатак прызнаўся, што пратакол затрымання складаў зыходзячы з таго, што бачыў на плошчы Незалежнасці. Калі адвакатка здзіўлена запыталася ў сведкі, ці разумее ён, што за такія проціпраўныя дзеянні можа быць жорстка пакараны, ён адказаў рэзка і самаўпэўнена: «Не. Я гэтага не разумею».

Між тым, як патлумачылі нам юрысты, дзеянні Багданава могуць падпадаць пад два артыкулы адміністрацыйнага кодэкса: «хлуслівыя сведчанні» і «падлог дакументаў».

Нельга сказаць, што спецназаўцы былі задаволеныя сваім вымушаным удзелам у гэтай выразна палітычнай справе. Сядзенне ў зале пасяджэнняў выклікала ў спецназаўцаў раздражненне. Яшчэ больш цвялілі пытанні адвакаткі.

А пытанні былі цікавыя. Чаму амаль усе пацярпелыя спецназаўцы адмовіліся праходзіць судмедэкспертызу? Чаму яны з вялікай цяжкасцю ўзгадваюць, дзе іх дапытваў следчы? Чаму пратакольныя паказанні байцоў ПМСП не супадаюць з дадзенымі на судзе? Несупадзенні часам датычылі дробязі — разбежкі ў часе падзей на адну-дзве гадзіны. А часам выклікалі пытанні нават у пракурора. Як у выпадку з пабітай нагой аднаго з іх. Суддзі ён расказаў аб моцна пабітай дэманстрантаміназе, а ў пратаколе чамусьці значылася галава. «Проста мне далі па галаве, і я забыўся пра нагу», — выкруціўся міліцыянт.

**Алесь Пілецкі**



# Беларусы становяцца невыязнымі

Набыць валюту стала значна цяжэй.

Складанасці з абменам рублёў на даляры і еўра абмяжоўваюць магчымасці беларусаў выязджаць за мяжу. Ля абменнікаў можна назіраць чэргі з ахвочых набыць долары і еўра. Людзі пільнуюць здадзеную валюту, каб тут жа яе набыць. З'явіліся і так званыя «валютчыкі» — курс амерыканскага долара ў іх вагаецца паміж 3200 — 3400 беларускіх рублёў.

### Варыянт 2. Мяняць за мяжой

Знайсці абменнік, які прыме ад вас беларускія рублі, можна і ў суседніх краінах. Аднак мяняць там нявыгадна. Адзін амерыканскі даляр можа абысціся нават у 5000 беларускіх — такі курс прапануюць некалькі варшаўскіх кантараў.

Але беларускія рублі прымаюць у лічаных абменніках у суседніх краінах.

### Варыянт 3. Карыстацца банкаўскай карткай

Тут не ўсё так проста. Тое, што на вашай картцы красуецца лагатып VISA альбо MasterCard, зусім не значыць, што любы банкамат ва ўсім свеце выдасць вам неабходную суму. Калі вы маеце ў беларускім банку рублёвы рахунак, на які, напрыклад, налічваецца заробак, шанцаў карыстацца карткай у Берліне няма ніякіх. «Вядома, што можна карыстацца карткамі нашага банка за мяжой. Але для гэтага трэба стварыць валютны рахунак, пакласці на яго пэўную суму ў доларах альбо еўра», — кажуць у прэсслужбе «Беларусбанка».

Прасцей кліентам некаторых прыватных банкаў. У «Прыёрбанку» абяцаюць, што ўсе іх карткі дзейнічаюць за мяжой: «Рублёвая таксама. Існуюць толькі некаторыя абмежаванні па сумах, якія можна зняць за адзін раз, але гэта заўсёды было».

### Варыянт 4. Везці з сабой тавары на продаж

Гэты варыянт ужо даўно квітнее на заходняй мяжы Беларусі. Беларусы вязуць алкаголь, паліва, цыгарэты, лекі, прадаюць іх там за злотыя і літы, а на атрыманыя грошы закупляюцца ў супермаркетах. Аднак для туруста такі спосаб мала прымальны.

**Алесь Пілецкі**

**У Беларусі з рублёвых картак валюты не здымеш**

«Белаграпрамбанк» з 28 сакавіка выдае са сваіх рублёвых картак гатоўку толькі ў беларускіх рублях — скарыстацца банкаматам для канвертацыі больш нельга. З валютных рахункаў можна зняць не больш 500—1000 долараў у дзень.

«Белінвестбанк» забараніў папаўняць валютныя рахункі беларускімі рублямі, а таксама пераводзіць сродкі з аднаго валютнага рахунка на другі.

«Прыёрбанк» і «Белзнешэканомбанк» забаранілі на тэрыторыі Беларусі валютныя аперацыі з выкарыстаннем рублёвых картак.

Забарону на гэта ўвялі і шэраг невялікіх прыватных банкаў : «Банк ВТБ», «Банк Масква—Мінск», «РРБ-Банк», «Мінскі транзітны банк». Прычына абмежаванняў у тым, што з 22 сакавіка Нацбанк перастаў прадаваць іншым банкам валюту для аперацый з насельніцтвам.

# Канец калючай заслоны

З беларускай мяжы здымуць дрот.

Калючы дрот на беларуска-польскай мяжы ўрэшце знікне: Беларусь траціць зашмат на ўтрыманне сістэмы, якая даўно перастала быць неабходнай. Пра гэта падчас сустрэчы з жыхарамі Пружанаў паведаміў старшыня дзяржаўнага памежнага камітэта Ігар Рачкоўскі. Ён і сам згодны, што дрот на мяжы — гэта савецкі перажытак і выглядае ён ганебна. Цяпер дрот давядзецца на нешта замяніць, але на што?

З гэтым пытаннем «НН» звярнулася да супрацоўніка прэс-службы памежнага камітэта Ігара Шчацініна:

— Мы будзем карыстацца звычайным аператыўным метадам, як робім гэта цяпер на балтыйскім накірунку. Калі здымалі дрот на мяжы з Латвіяй, баяліся, што з'явіцца вялікі паток мігрантаў. Але час паказаў, што выпадкаў незаконнай міграцыі мала. Тады прыбралі дрот на мяжы з Літвой — вынік такі самы. Цяпер мы разлічваем, што і мяжу з палякамі ўдасца «ачысціць». Але колькі часу гэта зойме — пакуль не ведае ніхто. Папершае, нам патрэбна згода польскага боку. Па-другое, інжынерныя працы — працэс паступовы, і колькі ён будзе доўжыцца — невядома. Праца распачалася, але пакуль толькі на паперы.

Калючы дрот на межах былых савецкіх дзяржаваў — рэч цяпер ужо рэдкая. У мінулым годзе ад калючага дроту адмовілася Малдова.

А вось на мяжы Украіны і Венгрыі калючы дрот пакуль застаецца.

Зняцце дроту стане вялікай радасцю для жыхароў Пабужжа. Многіх з іх выселілі з прыбярэжных вёсак. І для старых людзей гэта магчымасць пацалаваць зямлю ў цяперашняй нейтральнай зоне, дзе калісьці стаялі хаты, у якіх яны прыйшлі на свет.

**Юрась Ускоў**



**Сцісла**

**Улетку з Мінска да Крыма можна будзе дабрацца за 2 гадзіны.**

З 17 чэрвеня авіякампанія «Белавія» пачне выконваць рэгулярныя рэйсы ў Сімферопаль. Апошні рэйс летняга сезона запланаваны на аўторак 20 верасня. Кошт білетаў будзе складаць 226 еўра туды і назад. Такая цана супастаўная з цаной купэ, якая складае каля 200 даляраў.

tio.by

# Deep Purple выканалі ў Мінску «Купалінку» і «Польку»

Канцэрт знакамітых брытанцаў прайшоў 27 сакавіка ў мінскім Палацы спорту.

Гэта быў апошні выступ Deep Purple ў рамках усходняга туру, які распачаўся 21 сакавіка ў Маскве. У часе традыцыйнага сольнага выступу клавішнік Deep Purple Дон Эйры ўключыў у папуры з класікі «Купалінку» і «Польку».



## Сусветных зорак заклікаюць не даваць канцэрты ў Беларусі

«Дысідэнты кажуць поп-зоркам: не спявайце ў Беларусі» — такі артыкул выйшаў у брытанскай газеце Independent.

Шакіра і Мобі — спевакі, якія падтрымліваюць прагрэсіўныя палітычныя рухі, на працягу бліжэйшых месяцаў павінны выступіць з канцэртамі ў Мінску. Змагары за правы чалавека заклікаюць іх адмовіцца ад гэтых планаў, піша Independent.

Газета нагадвае падзеі апошніх месяцаў у Беларусі, калі больш за 700 актывістаў дэмакратычнага руху былі арыштаваныя. Палітыкам, якія адважыліся выступіць супраць Лукашэнкі, былі прад'яўленыя абвінавачванні ў арганізацыі масавых беспарадкаў. Беларусь застаецца адзінай краінай у Еўропе, у якой дзейнічае смяротнае пакаранне.

У краіне 80 працэнтаў уласнасці — у тым ліку усе арэны, на якіх можна выступаць — належаць дзяржаве.

«Я была ўзрушана, калі пачула, што гэтыя артысты прыязджаюць выступаць у Беларусь», — кажа Ірына Багданава, сястра зняволенага кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава.

Наталля Каляда, дырэктарка «Свабоднага тэатра», заявіла: «Мы звяртаемся да артыстаў з просьбай адмяніць свае канцэрты ў Беларусі, паколькі любы візіт дае знак дыктатару, што выкраданні людзей і катаванні ў турмах КДБ — гэта нармальна».

Беларускі канцэрт Шакіры — гэта частка яе глабальнага турнэ The Sun Comes Out. Ён прызначаны на 19 мая ў «Мінск-Арэне». Беларускія сайты ўжо пачалі продаж квіткоў і на канцэрт Мобі, які павінен адбыцца 12 чэрвеня.

**СГ**

# Ягоны «Букет» памятаюць

Памёр спявак Аляксандр Барыкін, яму было 59 гадоў.

Вядомы расійскі музыка, кампазітар і спявак Аляксандр Барыкін памёр у Арэнбургу ад абшырнага інфаркту. Дактары 12 гадзін спрабавалі яго ўратаваць, але не здолелі.

«Пасля канцэрта Сашу забралі ў шпіталь, і там ён памёр... Праблемы са здароўем пачаліся ў Барыкіна яшчэ ў студзені, ён лячыўся ў кардыялагічным цэнтры», — сказалі сваякі.

Папулярнасць прыйшла да Аляксандра Барыкіна пасля выканання такіх песень, як «Востраў», «Букет», «Аэрапорт», «Праграма перадач на заўтра» і «Выратавальны круг». Ён працаваў з Алай Пугачовай, Уладзімірам Кузьміным, Ігарам Нікалаевым, супрацоўнічаў з кампазітарам Давідам Тухманавым.

**АГ**



# Чорны спіс

## Мінскія канцэрты «Ляпісаў» таксама адмянілі.

«Ляпіс Трубяцкой» мусіў выступіць у сталічным клубе «Рэактар» 1 і 2 красавіка. У клубе прычыну адмены канцэртаў не назвалі. Не ведае яе і прадзюсар гурта Яўген Калмыкоў. Але ён упэўнены, што яе прыдумаюць: «Пажарнікі, хутчэй за ўсё, будуць».

У «Ляпіса Трубяцкога» ў туры па Беларусі планаваліся яшчэ канцэрты ў Маладзечне (раскупленыя ўсе квіткі), Жлобіне (400 квіткоў купілі) і Салігорску (у продаж квіткі яшчэ не пастуралі). Аднак шанцаў мала: у Гомелі, Магілёве і Мінску выступы сарваліся.

Прадзюсар адзначае, што беларускі тур каманды падзялілі на дзве часткі: да з'яўлення «чорнага спіса» і пасля. Факт стварэння спіса міністр інфармацыі Праляскоўскі назваў «гнюснай фальшыўкай», але пасля таго гурту не далі правесці ніводзін канцэрт у Беларусі. Пасля забароны выступу ў «Рэактары» музыкі зразумелі, што існуе татальная забарона.

У новым «чорным спісе», нядаўна разасланым па дзяржСМІ, — больш за 60 асобаў з Беларусі, Расіі, Вялікабрытаніі, ЗША. Музычныя гурты «Ляпіс Трубяцкой», «Крама», «N.R.M.», «Палац», «Нейра Дзюбель», «ДДТ», «Наіў», «Тараканы», драматургі Андрэй Курэйчык, Том Стопард, Уладзімір Халіп, калектыў «Свабоднага тэатра», пісьменнікі Генадзь Бураўкін, Віктар Ерафееў, мастак Аляксей Марачкін, кінаакцёры Джуд Лоў, Кевін Спэйсі ды іншыя.

Пасля з'яўлення спіса раптам адмяніліся і выступы ў «Нейра Дзюбеля», «Крамбамбулі», Змітра Вайцюшкевіча.

Першы чорны спіс дзейнічаў ад 2004 да 2007 года. Ён быў меншы. Пасля ўдзелу ў мітынгу апазіцыі 21 ліпеня 2004 года пачаліся праблемы ў N.R.M., «Палаца», Drum Ecstasy, «Нейра Дзюбеля», Pomidor/OFF, ZET, Вайцюшкевіча.

Як бачым, за сем гадоў колькасць «артыстаў-ворагаў» Лукашэнкі вырасла.

Артыстам з чорнага спіса дапамогуць выступы на «Белсаце» і замежных радыё, а таксама на канцэртах «Салідарныя з Беларуссю». Гэта кампенсуе страту ганарараў унутры краіны.

**Сяргей Макарэвіч**



Аматары музыкі «Ляпіса Трубяцкога» заклікаюць людзей сабрацца 1 і 2 красавіка а 19-й каля клуба «Рэактар». Каб здаць квіткі і праспяваць разам некалькі песень любімай каманды.

# Саліст «Ляпісаў»: «Сучасную Беларусь апісаў Оруэл»

## Сяргей Міхалок распаўсюдзіў заяву з нагоды забароны канцэртаў.

— Слова «апалітычны» ў сітуацыі сённяшняй Беларусі страчвае сэнс. Чалавек, які сябе так называе, апрыёры становіцца ў адзін шэраг з паслугачамі сучаснага беларускага рэжыму. Я бачыў часопіс з топ-50 самых паспяховых людзей Беларусі. Сярод іх не знайшоў ніводнага мастака, драматурга, паэта, гісторыка, вучонага, мысляра, касманаўта, героя працы. Уся «эліта» і «багема» сучаснай Беларусі складаецца з нейкіх уладальніц вясельных салонаў і касметалагічных кабінетаў, дырэктараў буцікоў і двух-трох папугаяў з беларускага тэлебачання. Выходзіць, наша эліта — гэта бяздумны мажорны натоўп, які танчыць на рэйвах і шансонных канцэртах.

**«Эліта» і «багема» сучаснай Беларусі складаецца з уладальніц вясельных салонаў і касметалагічных кабінетаў і двух-трох папугаяў з беларускага тэлебачання.**

Усё, што звязана са свежымі ідэямі, адкрыццямі, сапраўдным мастацтвам — усё гэта знаходзіцца ў глыбокім андэграўндзе.

У Беларусі ідзе нейкі культурны генацыд. Я ведаю, што многія цяпер з'язджаюць на Захад — вучыцца, працаваць, бо не бачаць перспектыў унутры краіны. Нам самой справе ўсе гэтыя чорныя спісы можна працягваць да бясконцасці. Кожны разважлівы, прыстойны, інтэлігентны чалавек любой прафесіі можа ўносіць сябе ў чорны спіс.

Такіх, як мы, проста выжываюць з краіны. Нам не дазваляюць спяваць, іншым не даюць займацца мастацтвам, навукай, бізнэсам. І калі раней ад нас патрабавалася маўчанне, то цяпер нас адсюль проста выганяюць.

Я хачу парэкамендаваць усім беларусам прачытаць самую галоўную для сучаснай Беларусі кнігу. Яна напісана 50 гадоў таму чалавекам, які ніколі не быў у нашай краіне, але ён падрабязна яе апісаў. Кніга называецца «1984», аўтар — Джордж Оруэл.

А цяпер вернемся да рок-нролу. Калі ідэолагі і працаўнікі культуры, афіцыйныя асобы лічаць, што «Ляпіс Трубяцкой», N.R.M., «Нейра Дзюбель», Naka, Вайцюшкевіч нявартыя высокага звання рок-музыкі, тады няхай яны па метадзе «Фабрыкі зорак» набяруць з ліку БРСМ-актывістаў самаробных талентаў, апрануць іх у скураныя ўборы па вобразе галоўнага рокера нашай краіны Дзядзі Вані.

Няхай выдатныя кампазітары Алег Елісеенкаў, Макс Алейнікаў і іншыя напішуць ім рок-песні, паставяць ім цуда-святламузыку, якую я бачыў на розных афіцыйных мерапрыемствах, а пасля з дапамогай дручкоў і электрашокераў зганяюць на гэтыя канцэрты моладзь. Таму ўсе гэтыя афіцыйныя мерапрыемствы і бясплатна нікому не патрэбныя.

**Кастусь Матушыч**

# Naka: Лепш апынуцца ў гэтым спісе, чым застацца па-за ім

Шмат каго здзівіла, што ў «чорны спіс» дзеячаў культуры трапіў і гурт Naka. Ён ніколі раней не быў «апальным».

«У 2011 годзе ў нас выйшаў інтэрнэт-сінгл «Собирайтесь», я думаю, праблема ў гэтым», — кажа менеджар Naka Андрэй Ісачанка. У новым альбоме назвы песень («Собирайтесь», «Пора», «Всех забрали») гучаць «небяспечна». Але знайсці ў тэкстах палітычныя намёкі можна, хіба, маючы навязлівую ідэю.

«Менеджары клубаў папярэдзілі нас, што канцэрты немагчымыя, — кажа Ісачанка. — Ну, галоўнае, што новыя песні пішуцца, будзем іх выпускаць, выступаць у Расіі і ва Украіне. Ёсць жа адкрытая прастора. Мы лічым так: лепш апынуцца ў гэтым спісе, чым застацца па-за ім. У нас ёсць выразная грамадзянская пазіцыя. Ды і ўсё ішло да таго, каб нас забаранілі: аднаго з нашых гітарыстаў, Аляксандра Лантуха, затрымалі на Плошчы ў 2006 годзе, адвезлі на Акрэсціна. Ды і ў іншыя моманты мы сваю пазіцыю выказвалі недвухсэнсоўна».

**Юрась Ускоў**

**«Тараканы» адмовіліся ад тура па Беларусі**

Лідар расійскай панк-каманды Дзмітрый Спірын паведаміў, што ў бліжэйшы час гурт паспрабуе зладзіць канцэрт недалёка ад беларускай мяжы, дзе для беларусаў будуць зніжкі.

# Канцэрт Шакіры ў Мінску ніхто не адмяняў

## Чуткі ў інтэрнэце: спявачка адмовілася ад шоу з палітычных матываў.

Сайт muz.ru, са спасылкамі на блізкіх да сайта «Хартыя97» людзей, змясціў інфармацыю, што калумбійская спявачка адмовілася ад канцэрта ў Мінску. Як піша гэты музычны рэсурс, Шакіру «насцярожвае палітычная абстаноўка ў Беларусі, адзінай краіне Усходняй Еўропы, дзе захоўваецца рэжым, блізкі да таталітарнага». Праўда, дату канцэрта сайт назваў з памылкай: замест 19 мая было напісана пра 11-га.

Арганізатары канцэрта інфармацыю абверглі. З другога боку, чуткі выглядалі досыць праўдзіва, з улікам таго, што Шакіра займаецца грамадскай дзейнасцю.

За некалькі дзён да гэтага ў газеце The Independent з'явіўся заклік да заходніх музыкантаў не ездзіць у Беларусь, такім чынам асудзіць дыктатуру. Заклік, размножаны беларускімі незалежнымі СМІ, выклікаў супярэчлівую рэакцыю: маўляў, тыя, хто заклікаў, самі жывуць за мяжой і з невядомых нагодаў імкнуцца ізаляваць Беларусь у культурным плане.

**ЮУ**



# Беларуская рэвалюцыя

**Сёняшнія палітычныя суды — працяг змагання за дасягненне мэтаў, пастаўленых 25 Сакавіка 1918 года. Піша гісторык Анатоль Сідарэвіч.**

18 снежня 1917 года бальшавікі Заходняй вобласці (гэтак яны называлі нашу краіну) збройнай сілай разагналі Усебеларускі з'езд. На наступны дзень яны захапілі дом губернатара на Саборнай плошчы, у якім месціліся беларускія ўстановы.

Рэдактар тыднёвіка «Вольная Беларусь» Язэп Лёсік стаяў перад альтэрнатывай: або «не распісваць» матывы і абставіны разгону з'езда, дазвол і грошы на правядзенне якога дала цэнтральная расійская ўлада, або адмовіцца ад выпуску газеты. Былы палітычны ссыльны, Язэп Лёсік выбраў першае. Таму ў нумары «Вольнае Беларусі» ад 21 снежня 1917 г. гісторык знойдзе мала канкрэтнага матэрыялу пра тую гістарычную падзею.

Усе наступныя дзевяноста тры гады па-за ўвагай гісторыкаў заставаўся невялікі тэкст, надрукаваны 21 снежня «тлустым» шрыфтам на 2-й старонцы «Вольнае Беларусі». А тэкст заслугоўвае асаблівае ўвагі. Думаю, асноўную ідэю таго тэксту настала пара актуалізаваць. Вось яна: «Беларуская рэвалюцыя пачалася. Няхай жыве Беларускі Народ!»

## Рэвалюцыя ў свядомасці

Актуалізуючы думку Язэпа Лёсіка, асмелюся сцвярджаць, што рэдактар «Вольнае Беларусі» памыліўся.

Беларуская рэвалюцыя пачалася не 18 снежня 1917 года. У той дзень пачалася палітычная рэвалюцыя. Але перш чым адбудзецца палітычны пераварот, павінен адбыцца пераварот у галовах.

Беларуская рэвалюцыя насамрэч пачалася ўвосень 1902 года ў Пецярбургу. Група маладых людзей з Віленшчыны на чале з Вацлавам Іваноўскім паспрабавала стварыць першую беларускую палітычную арганізацыю — Беларускую рэвалюцыйную партыю. Яны склалі адозву да інтэлігенцыі, у якой заклікалі працаваць дзеля асветы беларускага народа. Палітычных пастулатаў у першым дакуменце беларускага руху XX стагоддзя не было. І гэта не задаволіла маладых людзей з Мінска, якія ўвосень 1902 года прыехалі ў Пецярбург на вучобу. Іван Луцкевіч не адмаўляў, што народу трэба кнігі, але, на ягоную думку, гэтага было мала. І таму Іван з братам Антонам узяўся за стварэнне беларускай палітычнай арганізацыі самым сур'езным чынам.

У 1903 годзе ўжо меліся габрэйскія, літоўскія, польскія, расійскія, украінскія партыі. Амаль усе яны спрабавалі дзейнічаць і на беларускай тэрыторыі, але ніводная не ўлічвала інтарэсы і патрэбы беларускай мужыцкай нацыі. Большасць тых партый былі ўпэўненыя або рабілі выгляд, што такой нацыі няма, і ставілі за мэту ўключыць у склад будучых літоўскай, польскай і ўкраінскай дзяржаў, у склад будучай расійскай дэмакратычнай рэспублікі калі не ўсю Беларусь, дык асобныя яе часткі.

У такой сітуацыі проста неабходна было, каб нехта сказаў слова за Беларусь. І гэтае слова сказалі браты Іван і Антон Луцкевічы, Вацлаў Іваноўскі ды іх аднадумцы. У канцы 1903 года яны правялі ўстаноўчы з'езд Беларускай рэвалюцыйнай Грамады — партыі, якая наступныя пятнаццаць гадоў будзе адзінаю палітычнаю арганізацыяй беларусаў.

Людзі, якія стаялі ля вытокаў беларускага руху XX стагоддзя, былі зусім маладыя. На момант стварэння партыі Вацлаву Іваноўскаму споўнілася 23 гады, Івану Луцкевічу — 22, Антону — 19. На гэтым фоне 35-гадовы беларускі рэвалюцыянер Карусь Каганец выглядаў чалавекам сталага веку.


Нацыянальны сцяг на губернатарскім доме ў Мінску (цяпер — пл. Свабоды, 7), дзе засядаў Народны Сакратарыят. Люты—сакавік 1918 г.




Маладосцю заснавальнікаў партыі тлумачыцца тое, што першая праграма БРГ (з восені 1904 года — Беларуская сацыялістычная Грамада) была, як прызнаваўся Антон Луцкевіч, «нявырабленая». Аднак адзін пункт гэтай праграмы стаў вызначальным у дзейнасці беларускіх сацыялістаў. У тым пункце абвяшчалася, што БСГ хоча пабудаваць «незалежную дэмакратычную рэспубліку».

Можна смела казаць, што ў дзень заснавання Беларускай сацыялістычнай Грамады ў Беларусі пачалася ідэалагічная рэвалюцыя.

Маладыя беларускія сацыялісты разумелі, што стаць незалежнаю адразу, з першае спробы Беларусь не здолее. Яны прыйшлі да пераканання: перш чым Беларусь набудзе незалежнасць, яна павінна стаць аўтаномнаю часткаю будучай Расійскай дэмакратычнай федэратыўнай рэспублікі. Для незалежнай Беларусі патрабаваўся шырокі пласт інтэлігенцыі, адміністратараў, патрэбен быў досвед самакіравання, самаарганізацыі, але найперш патрабавалася, каб у галовах вялікай колькасці людзей здзейснілася ідэалагічная рэвалюцыя.

Тысячы экзэмпляраў улётак і брашур, надрукаваных па-беларуску, выпуск газеты «Наша Ніва», праца выдавецтваў, арганізацыя музычна-драматычнага гуртка — усё гэта і іншае служыла далучэнню да барацьбы за нацыянальнае вызваленне новых і новых людзей. Выключнаю заслугаю рэдакцыі «Нашай Нівы» (а яе ўзначальвалі сябры Цэнтральнага Камітэта БСГ) было тое, што ў беларускім руху з'явілася і правая плынь, якая заснавала газету «Беларус». Яшчэ большаю заслугаю было тое, што, заснаваныя дзеячамі БСГ «Наша Ніва» і выдавецтвы далі трыбуну шматлікім талентам, у тым ліку зоркам першае велічыні — Янку Купалу, Якубу Коласу і Максіму Багдановічу.

## Пачатак палітычнай рэвалюцыі

Першая сусветная вайна прынесла беларускаму народу незлічоныя бедствы. З другога боку — паспрыяла пашырэнню беларускай свядомасці ў масах. Апынуўшыся на чужыне, у бежанстве, многія беларусы адчулі сябе менавіта беларусамі, а не «рускімі» жыхарамі Паўночна-Заходняга краю імперыі.

> Стаўшы незалежнаю, Беларусь у 1994 годзе сышла з дарогі дэмакратычных пераўтварэнняў.

Скіданне царызму было паваротным пунктам у вызвольным руху. Восем месяцаў свабоды зрабілі беларускі рух сапраўды масавым і шматстайным. Яго найвышэйшым пунктам стаў Усебеларускі з'езд. Больш як 1800 дэлегатаў прадстаўлялі ўвесь беларускі этнічны абшар: Віленскую, Віцебскую, Гродзенскую, Магілёўскую, Мінскую і Смаленскую губерні. Гэта быў сапраўды дэмакратычны форум, бо ў працы з'езда бралі ўдзел прадстаўнікі Саветаў сялянскіх, рабочых і салдацкіх дэпутатаў, земстваў, гарадскіх дум, кааператураў, палітычных партый, бежанскіх арганізацый.

У тыя снежаньскія дні 1917-га пачалася беларуская палітычная рэвалюцыя.

На з'ездзе былі і тыя, хто марыў аб поўнай дзяржаўнай незалежнасці роднага краю, і тыя, хто не адважваўся нават падумаць пра гэта. Таму з'езд прыняў кампрамісную пастанову, якая задавальняла ўсіх: Беларусь становіцца аўтаномнаю часткаю Расійскай дэмакратычнай федэратыўнай рэспублікі, а для кіравання краем з'езд выбірае са свайго складу Усебеларускую Раду (Савет) сялянскіх, салдацкіх і рабочых дэпутатаў. Менавіта Раду, у якой прадстаўнікі розных груп насельніцтва і розных партый радзяцца і прымаюць узгодненыя рашэнні. Гэта было дэмакратычнае разуменне савецкай улады. Але быў і іншы — бальшавіцкі, недэмакратычны — погляд на Саветы. І таму няма нічога дзіўнага, што бальшавікі Заходняй вобласці (людзі, прыгнаныя ў Беларусь ваеннымі падзеямі) вырашылі разагнаць з'езд збройнаю сілаю.

Дэлегаты ж разважалі па-свойму. Раз яны прадстаўляюць беларускі народ, раз цэнтральная расійская ўлада дазволіла правесці Усебеларускі з'езд і нават фінансавала яго, яны, дэлегаты, павінны давесці сваю справу да канца. Таму 18 снежня 1917 года яны сабраліся ў дэпо Лібава-Роменскай чыгункі і абвясцілі Раду Усебеларускага з'езда органам краёвай улады. 21 снежня Рада Усебеларускага з'езда, прызнаўшы сябе краёваю ўладаю, вылучыла са свайго складу Выканаўчы камітэт на чале з Язэпам Варонкам. На Выканкам ускладаліся функцыі выканаўчай улады Беларусі.

## Найвышэйшы пункт рэвалюцыі

У момант разгону Усебеларускага з'езда бальшавіцкая ўлада паказала сваю нелаяльнасць да беларускага руху за самавызначэнне. Яна парушыла ёю ж выдадзеную Дэкларацыю правоў народаў Расіі. Таму беларускі рух мог цяпер быць нелаяльным да бальшавіцкай улады. І калі III Усерасійскі з'езд Саветаў (студзень 1918 года) пад дыктоўку Уладзіміра Леніна і Якава Свярдлова ўхваліў дзеянні мінскіх бальшавікоў, шляхі беларускай дэмакратыі і бальшавізму разышліся.

Ніводная рэвалюцыя не адбываецца ў старым прававым рэчышчы. У студзені 1918 года петраградская ўлада развязала рукі беларускім рэвалюцыянерам. Мала таго, гэтая ўлада сваёй палітыкай падштурхоўвала беларускіх рэвалюцыянераў да радыкальных дзеянняў.

У мяснікянаў, ландэраў і кнорыных хапіла збройнай сілы, каб разагнаць Усебеларускі з'езд, але ў іх не

**Трэцяя Устаўная Грамата Рады БНР,**

прынятая 25 сакавіка 1918 г., абвяшчала:

што Беларусь не з'яўляецца часткай Расіі;

што ўлада БНР прасціраецца на ўсе тэрыторыі, дзе беларусы з'яўляюцца этнічнаю большасцю;

што Беларусь будуецца як незалежная дэмакратычная дзяржава.

# яшчэ не завершана

было сілы супрацьстаяць немцам. І як толькі нямецкія войскі рушылі на Усход, бальшавікі, прыхапіўшы з сабою авуары дзяржаўнага банка, мусілі ўцякаць у Смаленск. 19 лютага 1918 года з падполля выйшаў Выканаўчы камітэт Рады Усебеларускага з’езда, з турмы былі вызвалены беларускія дзеячы, а ўжо 20 лютага паўстаў першы беларускі ўрад — Народны Сакратарыят. І гэты ўрад быў створаны не ў Смаленску, не пад дыктоўку Іосіфа Сталіна, а тут, у Мінску, самімі беларусамі. На балконе губернатарскага дома ў Мінску, дзе засядаў Народны Сакратарыят, зноў з’явіўся наш нацыянальны сцяг.

Можна наракаць на Язэпа Варонку ды іншых дзеячаў за тое, што яны не абвясцілі Беларусь незалежнаю дзяржаваю да прыходу немцаў у Мінск, да заключэння Брэсцкага мірнага дагавору паміж немцамі і бальшавікамі. Але для гэтага трэба было сабраць Раду Усебеларускага з’езда. Мала таго, трэба было выканаць наказ дэлегатаў з’езда і папоўніць Раду прадстаўнікамі нацыянальных меншасцяў (габрэйскай, літоўскай, польскай, расійскай), земстваў і гарадоў.

Выканкам Рады Усебеларускага з’езда быў закладнікам дэмакратычных працэдур. Рада здолела сабрацца толькі 19 сакавіка. А тым часам у Брэсце быў падпісаны мірны дагавор. Адхіліўшы ад удзелу ў перамовах прадстаўнікоў беларускага народа, немцы і бальшавікі падзялілі Беларусь. І Выканаўчы камітэт мусіў, не чакаючы пачатку працы Рады, 9 сакавіка абвясціць Беларусь народнаю рэспублікай. У 2-й Устаўнай Грамаце былі закладзеныя асновы канстытуцыйнага ладу. Сабраўшыся 19 сакавіка на сваё пасяджэнне, Рада Усебеларускага з’езда вырашыла, што ад гэтага часу яна будзе Радай Беларускай Народнай Рэспублікі. Аднак ні Выканкам 9 сакавіка, ні сама Рада праз дзесяць дзён нічога не сказалі пра дзяржаўна-прававы стан Беларусі: ці застаецца Беларусь па-ранейшаму часткай Расіі?

Для таго, каб адказаць на гэтае пытанне, спатрэбіліся дзве рэчы. Па-першае, у Мінск прыехала дэлегацыя Беларускай Рады ў Вільні на чале з Антонам Луцкевічам. Гэтая Рада яшчэ 16 лютага абвясціла парванымі дзяржаўныя сувязі з Расіяй. Па-другое, 23 сакавіка кайзер Вільгельм II прызнаў незалежнасць Літвы, а Народны Сакратарыят Беларусі атрымаў з Берліна тэлеграму, што Германія па-ранейшаму лічыць Беларусь часткаю Расіі. Мала таго, Германія вырашыла аддаць пад уладу Літвы частку этнічнай Беларусі з Гроднам, Валожынам, Паставамі, Браславам. У гэтых умовах у патрыётаў Беларусі не было іншага выйсця, як абвясціць БНР незалежнаю дзяржаваю.

Прынятыя 25 сакавіка 1918 г. пастанова Рады БНР і Трэцяя Устаўная Грамата сталі найвышэйшым пунктам беларускае рэвалюцыі.

Гэтымі актамі абвяшчалася, што Беларусь не з’яўляецца часткай Расіі, што ўлада БНР прасціраецца на ўсе тэрыторыі, дзе беларусы з’яўляюцца этнічнаю большасцю, што Беларусь будуецца як незалежная дэмакратычная дзяржава.

## Рэвалюцыя будзе завершана

Леў Троцкі пісаў, што кожная рэвалюцыя робіць два крокі наперад, каб зрабіць крок назад. Калі казаць пра беларускую рэвалюцыю, дык Актам 25 Сакавіка былі абвешчаны тры крокі наперад (выхад Беларусі са складу Расіі, незалежнасць і дэмакратыя). У канцы 1918 — пачатку 1919 года ад гэтага ідэалу былі здзейснены два крокі назад.

У канцы 1918 — пачатку 1919 года пад ціскам вонкавых абставін і з прычыны дзейнасці БНР на міжнароднай арэне Масква дала згоду на стварэнне беларускай савецкай рэспублікі. Хоць фармальна Савецкая Беларусь абвяшчалася незалежнаю дзяржаваю, насамрэч БССР стала аўтаномным утварэннем. Па-другое, аддадзеная пад уладу Крамля, БССР не была дэмакратычнаю. Самае большае, на што пайшлі бальшавікі — прызналі права Беларусі на тэрытарыяльную адасобленасць ад Расіі.

Калі некаторыя публіцысты кажуць, што ў 1991 годзе незалежнасць звалілася на Беларусь нечакана, дык гэта мана.

БССР, як пісаў Антон Луцкевіч, была няшчыраю саступкаю Масквы беларускаму руху. Яна не была б створана, калі б не БНР, калі б за справу не ўзяліся былыя сябры Беларускай сацыялістычнай Грамады (Зміцер Жылуновіч, Аляксандр Чарвякоў, Язэп Дыла ды іншыя), якія, застаючыся патрыётамі сваёй Айчыны, перайшлі на бальшавіцкія пазіцыі. Менавіта нацыянал-камуністы, а таксама былыя сябры БСГ, якія засталіся па-за партыямі, адыгралі выключную ролю ў жыцці БССР у 1920-я.

БССР з яе аўтаноміяй Антон Луцкевіч разглядаў як пераходную прыступку да незалежнасці. Бальшавікі таксама разумелі, што аўтаномны статус БССР шмат каго не задавальняе, што ідэал, сфармуляваны 25 Сакавіка, жыве ў свядомасці патрыётаў. Умацаваўшыся ва ўладзе, бальшавікі абрынулі свой тэрор на айцоў БНР і на айцоў БССР, на нацыянальную эліту, у тым ліку на цвет беларускага сялянства. Гісторыкі фіксуюць тры хвалі масавага тэрору: 1930–1931, 1933–1934, 1936–1938. У 1939 годзе да БССР была далучана Заходняя Беларусь; каток тэрору пракаціўся і па гэтай тэрыторыі. Гісторык Леанід Маракоў выпусціў не адзін том з біяграмамі пераследаваных, расстраляных, замучаных у турмах і канцлагерах патрыётаў Айчыны, незалежнікаў. А імёны колькіх барацьбітоў мы не ведаем? А колькі ўдзельнічалі ў паваенным незалежніцкім падполлі і паваеннай партызанцы? А колькі людзей мусілі пакінуць Беларусь, каб на чужыне горда ўзняць наш нацыянальны сцяг?

Калі ўвесну 1991 года Міхаіл Гарбачоў правёў рэферэндум аб патрэбе захавання Савецкага Саюза, здзівіла не тое, што 80 працэнтаў выбаршчыкаў у Беларусі галасавалі за СССР, а тое, што пасля дзесяцігоддзяў тэрору, гвалту і падману 20 працэнтаў выбаршчыкаў (кожны пяты!) не пабаяліся выказацца супраць СССР.

**БССР была няшчыраю саступкаю Масквы беларускаму руху. Яна не была б створана, калі б не БНР.**

Бальшавікі самі сваёй палітыкай падрыхтавалі распад СССР. 25 жніўня 1991 г. адбыўся чарговы акт беларускай рэвалюцыі — пасля 70 гадоў аўтаномнага існавання па-за межамі Расіі наша краіна стала нарэшце незалежнаю.

Чарговы акт нашай рэвалюцыі трэба разглядаць у кантэксце дэмакратычнай рэвалюцыі 1989–1991 гг. у камуністычных краінах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы.

У 1991 г. наша рэвалюцыя ўчыніла два крокі наперад, каб зрабіць крок назад. Стаўшы незалежнаю, Беларусь у 1994 годзе сышла з дарогі дэмакратычных пераўтварэнняў.

Ідэал 25 Сакавіка яшчэ не здзейсніўся цалкам. Але ён раней ці пазней здзейсніцца. У імя гэтага ідэалу ўвесь гэты час ідзе змаганне. Пэўна, ніхто не палічыць, колькі людзей за гэтыя шаснаццаць год былі арыштаваныя, аштрафаваныя, пазбаўленыя права на працу і вучобу, збітыя, прайшлі праз турмы і знаходзяцца ў турмах, вымушаныя былі эміграваць. Не забудзем і крывавыя ахвяры канца 1990-х. І калі ідэал незалежнай дэмакратычнай Беларусі здзейсніцца, гэта будзе апошні акт беларускай рэвалюцыі, пачатак якой пакладзены ў далёкім 1903 годзе.



Сябры Рады Беларускай Народнай Рэспублікі — легітымнага дэмакратычнага абранага беларускага ўрада.



Мікіта Ліхавід, якога судзяць за ўдзел у Плошчы, — адзін з герояў беларускай рэвалюцыі сёння.

# Раманчука ў Варшаве абараняў жывы шчыт

**Ідэя Польскага інстытута міжнародных адносін запрасіць Раманчука ў якасці эканамічнага эксперта выклікала гнеў беларускай дыяспары.**

23 сакавіка ў Варшаве прайшла канферэнцыя пад кангеніяльнай назвай «Як дэмакратызаваць Беларусь». Яе арганізаваў Польскі інстытут міжнародных адносін, а прафінансавала Брытанскае пасольства ў Варшаве.

У палітыка-эканамічнай частцы канферэнцыі ад Беларусі выступалі старшыня Руху «За Свабоду» Аляксандр Мілінкевіч і эканаміст Ярослаў Раманчук.

Мілінкевіч заклікаў Еўрасаюз актыўней дапамагаць беларускаму грамадству, аблегчыць візавы рэжым. Любую дапамогу Беларусі ён прапануе абумоўліваць. Ён за тое, каб ЕС выпрацаваў «дарожную карту» для Беларусі, каб не паўтарылася сітуацыя, калі «ЕС дапамагаў, а Лукашэнка гуляў у тэатр ілюзіі». Умоўна кажучы, вы робіце такі крок, а мы — такі. «Калі таго не будзе, магчымы чарговы дыялог, які распачнецца пасля вызвалення палітзняволеных, таксама кепска скончыцца», — засцерагаў Мілінкевіч. У той жа час ён засцерагаў ад такіх эканамічных санкцый, якія могуць павялічыць прывязку Беларусі да Расіі.

Нашмат больш эмацыйна зала ўспрымала выступ Яраслава Раманчука. Справа была нават не ў тым, што ён казаў, а ў самім факце ягонага запрашэння. Спачатку былы кіроўца Уладзіміра Някляева Артур Папок, а пасля і паплечнік Андрэя Саннікава Зміцер Бародка — абодва папрасілі ў Польшчы палітычнага прытулку — рэзка асудзілі былога кааліцыянта.

«Раманчук, ці ёсць у цябе сумленне? Ты здрадзіў беларускаму руху! Выступіў на тэлебачанні супраць сапраўдных лідараў Беларусі!..» — крычаў яму Бародка.

Арганізатары канферэнцыі двойчы рабілі перад трыбунай жывы шчыт, каб атуліць Яраслава Раманчука ад ягоных апанентаў.

Раманчук адказваў, што сумленне яго чыстае, нікому не здраджваў і нікога не ашукаў. І апраўдваўся абставінамі, у якіх прымаў рашэнне аб тым самым выступе: «Гэта быў выбар, які чалавек робіць у пэўнай сітуацыі пры адсутнасці інфармацыі».

У «мерытарычнай», як кажуць палякі, частцы свайго выступу Раманчук праводзіў думку, што ў выніку падзей 19 снежня рэзка ўзмацніўся ўплыў Расіі на беларускія ўлады. Масква цяпер можа дыктаваць Лукашэнку свае ўмовы. Больш за тое, выжыванне лукашэнкаўскай фінансавай сістэмы залежыць ад рашэння Крамля аб крэдытах Беларусі. На думку Раманчука, уласных рэзерваў у Нацбанка засталося на два-тры месяцы. Калі Масква замарудзіць, Мінску нічога не застанецца, як прыспешыць прыватызацыю не толькі мабільнага аператара МТС, але і «Беларуськалія».

Скандал вакол канферэнцыі прыцягнуў да яе вялікую ўвагу. Заяўкі на рэгістрацыю на мерапрыемства падалі 150 чалавек, хоць зала ўмяшчала толькі 120.

На канферэнцыі мусіў выступіць намеснік міністра замежных спраў Польшчы Генрык Літвін, але ён захварэў на грып, таму яго замянілі чыноўнікі ніжэйшага ўзроўню.

У кулуарах канферэнцыі гаварылі, што Літвін, які адказваў у МЗС Польшчы за ўсходні кірунак, мае неўзабаве выехаць на пасаду пасла Польшчы ва Украіне.

**Мікола Бугай**

## Раманчук прызнаўся ў падмане

**Прапанова працаваць ва ўрадзе, якая нібыта паступіла незадоўга да выбараў, была «качкай», прыдуманай Анатолем Лябедзькам.**

Пра гэта Раманчук расказаў у сваім інтэрв'ю інтэрнэт-газеце «Салідарнасць».

Як вядома, экс-кандыдат у прэзідэнты ад Аб'яднанай грамадзянскай партыі Яраслаў Раманчук 19 снежня не быў затрыманы, у адрозненне ад большасці кандыдатаў. Затое ён зрабіў афіцыйную заяву з асуджэннем іншых палітыкаў.

Сёння ён кажа, што ўначы з 19-га на 20-га проста не вытрымаў псіхалагічнай атакі і зачытаў загадзя напісаную для яго паперу.

«Для мяне самым крыўдным было, калі казалі, што мяне купілі. Маўляў, пакваліўся на прапанову працаваць ва ўрадзе. Але такой прапановы ніколі не было. Гэта мне ў свой час Лябедзька прапанаваў зрабіць такі піяр», — кажа Раманчук.

Гэта адбылося за тыдзень да выбараў, калі ён трапіў у аўтамабільную аварыю. Тады Лябедзька і прапанаваў такі піяр-крок: сказаць, што да гэтага Раманчука запрашалі працаваць ва ўрад і ён адмовіўся. У гэтым выпадку аварыя была б падобная да помсты за адмову.

«Не ведаю, навошта гэта зроблена, — кажа палітык. — Досведу ў такіх сітуацыях у мяне вельмі мала».

# Цэннік у Мірскім замку палохае турыстаў

16 снежня 2010 года ў Мірскім замку для наведвання адкрыліся новыя аб'екты.

Акрамя раней дзейнай Паўднёва-заходняй вежы і капліцы-пахавальні князёў Святаполк-Мірскіх цяпер можна ўбачыць Паўночны корпус, Цэнтральную, Паўночна-ўсходнюю і Паўночна-заходнюю вежы. Новыя экспазіцыі прысвечаны былым уладальнікам замка, а таксама войнам, якія ў розныя часы праходзілі на беларускіх землях. У некаторых залах рэканструяваны першапачатковы інтэр'ер.

Адкрыццё новых залаў адбілася і на цане квітка. Калі раней яго цана была досыць умоўнай, то цяпер яна стала палохаць. Дарослыя змогуць убачыць Мірскі замак, заплаціўшы 23 000 рублёў, а дзеці — 11 500. І гэта толькі за ўваход: экскурсійнае абслугоўванне каштуе яшчэ 60 000.

Калі звычайная беларуская сям'я, якая складаецца з двух дарослых і дваіх дзяцей, выправіцца ў Мірскі замак, толькі за ўваходныя квіткі яны будуць вымушаныя аддаць 69 000 рублёў, а з экскурсіяй — і ўсё 129 000.

Як растлумачылі супрацоўнікі Мірскага замка, такія цэны апраўдваюцца тым, што квіток дае права на наведванне ўсіх аб'ектаў музейнай экспазіцыі.

Можна назіраць даволі цікавую карціну: да замка пад'язджаюць аўтобусы і машыны, людзі падыходзяць да касы, бачаць цану квіткоў, разварочваюцца, абыходзяць замак па перыметры і з'язджаюць.

Колькі патэнцыйных наведнікаў губляе ў выніку замак — невядома, але напярэдадні актыўнага турыстычнага сезона сітуацыя складваецца невясёлая.

Вядома, 23 000 рублёў, крыху больш за 5 еўра, — нармальная цана для еўрапейскага музея. І яна не выклікае здзіўлення ні ў замежных турыстаў, ні ў расейцаў. Але для беларусаў наведванне Мірскага замка становіцца дарагім задавальненнем, якое можа дазволіць сабе далёка не кожны.

**tio.by**



КАЛЬКУЛЯТАР

## У КДБ свой курс даляра — 4700

Блогер shlahcic адшукаў у інтэрнэце, на сайце icetrade.by, тэндар на закуп васьмі снайперскіх вінтовак калібру 338 Lapua. Заказчыкам выступае Камітэт дзяржаўнай бяспекі Беларусі.

Кошт закупу ацэньваецца ў 940 мільёнаў (каля 300 тысяч долараў).

У КДБ пацвердзілі наяўнасць такога тэндара.

Аднак, адзначае «Белпартызан», на сайце salon-arms.ru адна вінтоўка такога калібру каштуе каля 25 тысяч долараў. Такім чынам, па афіцыйным курсе восем вінтовак будуць каштаваць каля 200 тысяч долараў.



Выходзіць, альбо хтосьці з гэтай здзелкі пакладзе сабе ў кішэню 110 тысяч долараў, або ў КДБ 1 даляр ужо ацанілі ў 4700 рублёў.

І, дарэчы, а навошта чэкістам раптам спатрэбіліся снайперскія вінтоўкі?

**СМ**

КАЛЯ СПОРТУ

## «Белшына» атрымала буйны штраф за расісцкую выхадку

Дысцыплінарны камітэт Беларускай федэрацыі футбола прыняў рашэнне ўжыць у дачыненні да футбаліста ФК «Мінск» Таіна Адама Сора санкцыю ў выглядзе часовай дыскваліфікацыі на адзін матч.

Таксама вырашана ў дачыненні да ФК «Белшына» прымяніць штраф у памеры 100 базавых велічынь (тры мільёны пяцьсот тысяч рублёў).

Справа ў тым, што падчас гульні за выход у чвэрцьфінал Кубка Беларусі паміж «Мінскам» і «Белшынай» фанаты бабруйскай каманды выкрыквалі абразы ў бок кот-д'івуарскага легіянера. Сора не вытрымаў і паказаў фанатам непрыстойны жэст, за што быў выдалены з поля.

**ЗП**

ХВАЛІ

## Расійскую службу Бі-бі-сі скарацілі

Легендарная Расійская служба Бі-Бі-Сі пасля 65 гадоў у эфіры цалкам пераходзіць у інтэрнэт.

Карпарацыя закрывае тры праграмы: «Ранні час», «Раніца на Бі-бі-сі» і «Вечар на Бі-бі-сі». Расейскамоўныя «БібіСева», «Вам слова» і «Пяты паверх» слухаць можна будзе ў інтэрнэце.

Дадзеныя меры выкліканыя скарачэннем бюджэту.

Дзесяцігоддзямі Бі-бі-сі, прадзіраючыся праз «глушылкі», даносіла да савецкіх людзей праўдзівую інфармацыю пра падзеі ў свеце.

**СМ**

ЗЕМЛЯКІ

## Гродна набудзе слана

Цэнтрам гродзенскага заапарка пасля рэканструкцыі стане слаunion ўнік плошчай 400 квадратных метраў. Яго ўзвядзенне ўжо пачалося. У сланоўніку будзе басейн і вялікі парасон, каб слон не пакутаваў ад сонца.

Завяршыць будаўніцтва самага ўмацаванага аб'екта плануецца ў ліпені, пад гэты час запланаванае і набыццё слана.

Мяркуецца, што гэта будзе дрэсіраваны слон, які завяршыў сваю цыркавую кар'еру.

Гродна стаіць без слана амаль дзесяць гадоў. Адзіны ў Беларусі слон Сурак, які жыў у Гродзенскім заапарку, сканаў ад старасці і хваробаў — цяпер яго шкілет можна бачыць у анатамічным музеі Гродзенскага аграрнага ўніверсітэта.

Зараз трэба свайго слана яшчэ і Слоніму, жартуюць гродзенцы.

**СМ**

## Кітайскі Гарганцюа

Ад яго хаваюць іншых дзяцей.

Брытанскія журналісты адшукалі ў кітайскай правінцыі Гудун трохгадовае дзіця, якое важыць каля 60 кілаграмаў.

Лу Хаа практычна не мае зносінаў з іншымі дзецьмі, бо падчас гульні можа іх пакалечыць.

Ён не любіць хадзіць, затое за раз з'ядае некалькі місак рысу і плача, калі не атрымлівае патрабаванай порцыі. Цяпер Лу Хаа важыць у пяць разоў больш, чым трэба дзіцяці ў яго ўзросце. Хоць нарадзіўся хлопчык з нармальнымі 2,6 кілаграма, у тры месяцы ён пачаў імкліва набіраць вагу. Бацькі мяркуюць, што гэта звязана з гарманальным разладам. Аднак дактары да гэтага часу не прыйшлі да адзінага меркавання, чаму дзіця ўвесь час просіць есці. Некаторыя мяркуюць, што ў яго мозгу пухліна.

Бацькі баяцца, што сэрца сына аднойчы не вытрымае нагрузкі, таму спрабуюць прымусіць Хаа рухацца. Летась хлопчыку ўдалося схуднець на дзесяць кілаграмаў. Але заняткі спортам для яго непрымальныя, бо пасля іх дзіця патрабуе яшчэ болей ежы.

**КаМ**

## Памерла пляменніца Леніна

У Маскве на 90-м годзе жыцця памерла Вольга Ульянава.

Яна была апошнім блізкім сваяком правадыра расійскай рэвалюцыі.

Дачка Дзмітрыя Ільіча Ульянава бачыла Леніна яшчэ пры жыцці, дакладней ён бачыў яе. Калі правадыр сусветнай рэвалюцыі памёр, Вользе Ульянавай было два гады.

Да апошніх дзён Вольга Ульянава, дацэнт хімфака МГУ, адстойвала месца Леніна ў маўзалеі, кансультавала музей Ульянаўска, напісала кнігу «Родны Ленін».

Ульянаву пахавалі на Новадзявочых могілках Масквы.

**СМ**

ЗДАРЭННІ

## Мужчына страціў памяць. Ці ведаеце вы гэтага чалавека?

У раённую бальніцу Апшэронска (Краснадарскі край, Расія) дастаўлены мужчына сярэдняга веку, які пакутуе на амнезію. Магчыма, ён жыхар ці грамадзянін Беларусі або мае тут сваякоў.

Ён не памятае, хто ён і як трапіў на Кубань. Юрый мала гаворыць, часцей сядзіць у адзіноце — малюе або піша вершы, у асноўным пра вайну ў Чачні і Афганістане. Яму часта сніцца сон, дзе ён у вайсковай форме: «Мне сніцца верталёт, я хачу на яго падняцца, чапляюся за трос, але не магу і падаю».

Калі ён з'явіўся ў Апшэронску, у руках у яго была папка з дакументамі. Сярод папер — спіс манастыроў Беларусі, некаторыя назвы пазначаныя птушачкамі.

Калі вы маеце якую-небудзь інфармацыю пра гэтага чалавека, просім вас звязацца з Рэдакцыяй па тэлефоне ў Мінску (017) 284-73-29 альбо па электроннай пошце nn@nn.by.




### Здарэнні сціслa

- **У Брэсце на могілках павесілася дзяўчына.** Ніякіх дакументаў пры ёй не знайшлі. На выгляд ёй было 20–25 гадоў. Яе асоба высвятляецца. Побач з дрэвам, на якім вісела жанчына, стаяла пачатая літровая бутэлька піва.
- **Рэйсавы аўтобус Мінск—Паланга трапіў у аварыю ля Ашмян.** 25 сакавіка трапіў у аўтаварыю рэйсавы аўтобус «Мінск—Паланга», які належыць літоўскаму перавозчыку. У выніку аварыі машына з'ехала ў кювет — пацярпелых няма. Прычынай аварыі магло стаць нечаканае з'яўленне на аўтатрасе лася.
- **Па віне п'янага кіроўцы загінуў 19-гадовы хлопец.** Трагедыя здарылася ў Мінску ўначы 24 сакавіка. Кіроўца 1973 г. н. на «БМВ-745» у стане алкагольнага ап'янення (2,0 праміле) ляцеў на чырвоны сігнал святлафора па праспекце Незалежнасці. На скрыжаванні з вуліцай Казлова ён сутыкнуўся з аўтамабілем «Фальксваген Пасат» (таксі), які перасякаў праспект на зялёны сігнал святлафора. Пасажыр таксі, малады чалавек 1991 года нараджэння, загінуў на месцы аварыі.
- **Начальнік аховы Гродзенскай вобласці, які скончыў жыццё самагубствам, быў пад следствам.** Палкоўніка Вадзіма Раманюка 2 сакавіка дасталі з пятлі ва ўласнай кватэры. Як стала вядома, напярэдадні Генпракуратура распачала ў дачыненні да яго крымінальную справу па артыкуле «Злоўжыванне ўладай і службовымі паўнамоцтвамі». Міліцыянт падазраваўся ў тым, што, працуючы ў раённым аддзеле брэсцкай аховы, выкарыстоўваў у асабістых мэтах службовы транспарт. Правяраліся таксама звесткі, якія казалі, што падначалены Вадзіма Раманюка ў працоўны час быў заняты не на службе, а працаваў на дачы начальніка.
- **Кран упаў на дзіцячы садок.** Аўтамабільны кран перакуліўся 22 сакавіка падчас будаўнічых работ пры рэканструкцыі гімназіі №16, што на вуліцы Лесі Украінкі ў Мінску. Кран зваліўся на плот дзіцячага садка і альтанку. Шчасце, што ў часе інцыдэнту ніхто не пацярпеў.

**СМ, АП**

## КАНЦЭРТЫ

**Лявон Вольскі**

**28 і 29 сакавіка ў «Графіці»** — канцэрт Лявона Вольскага. **Пачатак а 19-й.**

**Князь Мышкін**

**5 красавіка а 19-й у малой зале КЗ «Мінск»** — псіхадэлічны мінскі гурт «Князь Мышкін». Запрошаныя і спецыяльныя псіхадэлічныя госці: Zartipo, «Нагуаль», Іван Кірчук, Віктар Жыбуль і Вера Бурлак і іншыя.

**Phronesis**

**30 сакавіка ў Мінску ў вялікай зале Філармоніі (пр. Незалежнасці, 50)** выступіць трыа Phronesis, якое мае рэпутацыю найлепшага джазавага гурта ў Вялікабрытаніі. **Пачатак у 19.00.**






## ІМПРЭЗЫ

**Беларускія танцы шточацвер**

**Шточацвер ад 19-й да 23-й у кавярні «Жар-птушка»** адбываюцца беларускія танцавальныя вечарынкі. Вучаць ойру, падэспан, полькі, і не толькі.Кавярня месціцца ў парку Горкага. Уваход каштуе 8 тысяч рублёў з носа.

**Месяц польскай літаратуры**

**У цэнтры Мінска ў кнігарні «ЛогвінаЎ» (пр.Незалежнасці, 37а)** цэлы красавік — вялікая паліца з польскімі кнігамі, перакладнымі і ў арыгінале; стэнд з польскімі газетамі; сустрэчы з польскімі пісьменнікамі.

**31 сакавіка** — пасля ўрачыстага адкрыцця адбудзецца сустрэча з Міхалам Андрасюком і прэзентацыя ягонай кнігі Wagon drugej klasy. Пачатак а 18-й.

**6 красавіка** — сустрэча з Ігнацыем Карповічам і прэзентацыя яго новага рамана Balladyny i romanse. **Пачатак а 19-й.**

**13 красавіка** — сустрэча з публіцыстам, пісьменнікам, даследчыкам літаратуры і еўрапейскіх культурных сувязяў Міхалам Ягелам і прэзентацыя ягонай кнігі Narody i narodowo ci. **Пачатак а 19-й.**

**20 красавіка** — творчая лекцыя з паэтам і польскім перакладчыкам Набокава Лешэкам Энгелькінгам. **Пачатак а 19-й.** Вядучы — Андрэй Хадановіч.

**Той самы фестываль**

**Ад 21 да 26 красавіка ў Мінску** пройдзе Першы міжнародны фестываль альтэрнатыўных тэатраў «Той самы фестываль». Асноўная праграма пройдзе на базе Тэатра імя Е.Міровіча, на сцэнічных пляцоўках Палаца прафсаюзаў і Тэатра беларускай драматургіі. У фестывалі возьмуць удзел тэатры з Германіі, ЗША, Чэхіі, Польшчы, Славеніі, Расіі і Беларусі.

**Прэзентацыя кнігі Вітаўта Мартыненкі**

**30 сакавіка а 18-й на Сядзібе БНФ (пр. Машэрава, 8)** Вітаўт Мартыненка прэзентуе сваю новую кнігу Rock on-line — вздрогнут фсе! У імпрэзе бяруць удзел аўтар і героі кнігі: музыкі гуртоў P.L.A.N, Amaroka, Pete Paff, калегі-журналісты, музычныя менеджары ды іншыя аматары беларускага рока, рэпа, кекса і сэксу.

## ВЫСТАВЫ

**Забароненыя карціны**

**На сядзібе БНФ (пр.Машэрава, 8)** працуе выстава «Рэпрэсаваныя творы». На ёй сябры суполкі «Пагоня» выставілі два дзясяткі прац, якія цэнзары забаранялі выстаўляць цягам шаснаццаці гадоў. Сярод іх — і шэсць прац, знятых з сёлетняй выставы «Пагоні» ў Палацы мастацтваў.

**Самы неардынарны савецкі фатограф**

**31 сакавіка ў галерэі «Універсітэт культуры»** ў Палацы Рэспублікі адчыняецца выстава «Рэтраспектыва. Аляксандр Барадулін». Барадулін — адзін з найвядомейшых фатографаў. Ён першым з СССР здымаў Уорхала, Мэрк'юры, Шварцэнегера. Таксама на выставе можна пабачыць фота, прысвечаныя Другой сусветнай вайне з калекцыі Аляксандра і яго бацькі, Льва Барадуліна. Іх калекцыя лічыцца найбуйнейшым у свеце зборам класікі савецкага фота.

**Выстава да Дня незалежнасці Грэцыі**

**У «Мабільнай галерэі» Нацыянальнай бібліятэкі да 10 красавіка** працуе выстава грэчаскіх мастакоў Ірыны Гілеп і Паўла Дзімітрыядзі. У экспазіцыі прадстаўленыя таксама і фотаматэрыялы — партрэты герояў нацыянальна-вызвольнага руху Грэцыі (1821—1833 гг.).

**Парцаляна для каралёў**

**У Мастацкім музеі (Леніна, 20)** да 10 мая працуе выстава фарфоравай мануфактуры Херэнда «Парцаляна для каралёў». На выставе можна ўбачыць дэкаратыўныя вазы, прадметы з чайнага, абедзеннага сервізаў з дэкорам «Птушкі Ротшыльдаў».

**Новае жыццё старадаўніх абразоў**

У Мастацкім музеі да 22 мая працуе выстава абразоў і алтарных карцін «Адкрыццё святой прыгажосці». На выставе экспануюцца 10 твораў тэмпернага і алейнага жывапісу XVII–XIX стст.

**Творы Ісачова**

**У вялікай зале Музея сучаснага выяўленчага мастацтва (пр. Незалежнасці, 47)** да 3 красавіка працуе выстава жывапісу і графікі Аляксандра Ісачова з прыватнай калекцыі.

**Масонская выстава ў Гомелі**

**У Гомельскім палацава-паркавым ансамблі** працуе выстава рарытэтаў Віцебскага абласнога краязнаўчага музея «Масонская калекцыя са збораў Вацлава Федаровіча». На выставе дэманструюцца масонскія знакі і сімвалы канца XVIII — пачатку XIX стагоддзя. Усяго прадстаўлена больш як 50 прадметаў. Гэта друкаваныя і рукапісныя дакументы, рэчавыя помнікі, якія звязаны з развіццём масонства: знакі адрознення рускіх і польскіх лож, агульнамасонскія знакі адрознення і знакі розных ступеняў і пасадаў, масонскія стужкі, запоны і кішэні-кашалі.



# Віктар Шалкевіч

2 красавіка ў ДК МТЗ (Даўгабродская, 24) — канцэрт Віктара Шалкевіча. Пачатак а 19-й.

## ТЭАТРЫ

**30 сакавіка**

Беларускай драматургіі — «Дамавічкі»
Лялек — «Марынка-крапіўніца»
Новы драматычны тэатр — «Друскіле»
Новы драматычны тэатр — «Мой першы Sony»
Купалаўскі — «Чорная панна Нясвіжа»
Оперы і балета — «Рыгалета»
Купалаўскі — «Беларусь у фантастычных апавяданнях»

**31 сакавіка**

Беларускай драматургіі — «Гісторыя двух сабак»
Лялек — «Чароўная лямпа Аладзіна»
Купалаўскі — «Пінская шляхта»
Оперы і балета — «Рамэа і Джульета»

**1 красавіка**

Юнага гледача — «Дзюймовачка»
Лялек — «Вясёлы цырк»
Беларускай драматургіі — «Адамавы жарты»

**2 красавіка**

Лялек — «Прыгоды Пін-Піна»
Купалаўскі — «Не мой»
Беларускай драматургіі — «Што баліць?»

**3 красавіка**

Юнага гледача — «Пані Завіруха»
Лялек — «Васіліса прыўкрасная»
Беларускай драматургіі — «Каласы пад сярпом тваім»

**4 красавіка**

Купалаўскі — «Самотны захад»

**5 красавіка**

Беларускай драматургіі — «Неба ў дыяментах»

**6 красавіка**

Лялек — «Чаму старэюць людзі?..»
Купалаўскі — «Самотны захад»
Беларускай драматургіі — «Палёты з анёлам»
Оперы і балета — «Сільфіда»
Купалаўскі — «Хам»
Юнага гледача — «Пан міністр»

**7 красавіка**

Юнага гледача — «Шытая лялька Рэгедзі Эн»
Беларускай драматургіі — «Сёстры Псіхеі»
Оперы і балета — «Князь Ігар»
Купалаўскі — «Translations»

**8 красавіка**

Беларускай драматургіі — «Адвечная песня»
Купалаўскі — «Вечар»
Юнага гледача — «Мешчанін у шляхецтве»
Оперы і балета — «Спячая прыгажуня»

**9 красавіка**

Юнага гледача — «Вандраванне ў княства Сноў»
Лялек — «Піпі-Доўгаяпанчоха»
Оперы і балета — «Чароўная флейта»
Купалаўскі — «Памінальная малітва»
Беларускай драматургіі — «Дзённік паэта (Інтымны дзённік)»

**10 красавіка**

Юнага гледача — «Прыгоды Бібігона»
Лялек — «Мыйдадзір»
Оперы і балета — «Чыпаліна»
Купалаўскі — «Пінская шляхта»
Оперы і балета — «Травіята»
Беларускай драматургіі — «Чорны квадрат»




## КІНО

### Чырвоны каптурок

**Red Riding Hood**

ЗША — Канада, 2011, каляровы, 100 хв.

**Рэжысёр:** Кэтрын Хардвік

**Ролі выконваюць:** Аманда Сэйфрыд, Гэры Олдмэн, Шайло Фэрнандэз, Макс Айранс, Білі Бёрк, Вірджынія Мэдсэн, Джулі Крысці

**Жанр:** Гатычная меладрама па матывах казкі Шарля Перо

**Адзнака:** 5 (з 10)

Валеры — дзяўчына ў чырвоным плашчы — закаханая ў дрывасека Пітэра, але матуля прагне выдаць яе за багацейшага Генры. Калі дзяўчына вырашае ўцячы з каханым, у вёсцы пачынаюцца забойствы. Пярэварацень — нехта блізкі да Чырвонага каптурка.

Стужка Кэтрын Хардвік — эклектычная мяшанка з казак, готыкі, дэтэктываў і меладрамных перажыванняў.

Але ўсё ж дэтэктыўная інтрыга ў фільме наблага закручаная.

**Андрэй Расінскі**



# На FLIRTе з ветрыкам

У сталіцы прэзентавалі першую гарадскую электрычку.




У Мінску адбылася прэзентацыя электрацягніка вытворчасці швейцарскай кампаніі Stadler Bussnang AG. Новыя цягнікі з рамантычнай назвай Flirt будуць працаваць у фармаце гарадской электрычкі. Першая такая гарадская электрычка пачне курсаваць ад станцы «Мінск-Пасажырскі» да Ждановічаў у другой палове 2011 года.

Спецыяльна для «Гарадскіх ліній» будуць пераабсталяваныя ўсе прыпынкі на гэтым участку. Іх максімальна наблізяць да прыпынкаў грамадскага транспарту, паставяць тэрміналы самаабслугоўвання і інфакіёскі. У раёне будучай станцыі «Мінск-Паўночны» (каля гіпермаркета «Карона») вядзецца будаўніцтва пераходнага тунэля да станцыі метро «Маладзёжная».

У перспектыве маршрут працягнецца на захад да Заслаўя. Чакаецца, што ў будучыні гарадскія электрычкі будуць хадзіць і на паўночны ўсход да Смалявіч і паўднёвы ўсход да Міханавіч. Кошт праезду ў цягніках «Гарадскіх ліній» будзе ніжэйшы, чым у маршрутных таксі па аналагічных кірунках.

Беларуская чыгунка заключыла кантракт са Stadler Bussnang AG на пастаўку 10 электрацягнікоў новага пакалення ў сакавіку 2010 года. Пяць з іх прыбудуць у Беларусь у 2011-м годзе, астатнія — у 2012-м.

«Гарадскія лініі» — адзін з праектаў, якія рэалізуюцца да правядзення чэмпіянату свету па хакеі ў Мінску.

**Сямён Печанко**

**Усё пра Flirt**

Швейцарскі цягнік мае чатыры вагоны 75,2 метра ўдоўжкі. Агульная колькасць пасажырскіх месцаў 624, з іх 232 сядзячыя. Цягнік паскараецца пры крананні з месца на 1,2 м/с$^2$, а максімальныя хуткасць дасягае 160 км/г.

Flirt мае паніжаную падлогу, што палягчае пасадку і высадку пасажыраў. Каля кожных уваходных дзвярэй маецца зона падагрэву падлогі: узімку там не намярзае лёд і снег, што прадухіляе магчымыя траўмы пасажыраў. Усе дзверы абсталяваны цеплавымі завесамі.

У адным з вагонаў кожнага складу выдзелена зона для пасажыраў у інвалідных вазках, з дзіцячымі вазкамі, роварамі і грувасткім багажом. Тамсама размешчаная прыбіральня вакуумнага тыпу, абсталяваная падагрэвам вады, дазатарам вадкага мыла і электрычнай сушкай для рук.

Электрацягнік абсталяваны сістэмамі кандыцыянавання паветра і ацяплення, якія дазволяць падтрымліваць тэмпературу ў салонах +20°C, калі за акном будзе -30°C.

У пасажырскіх салонах змантавана некалькі дысплеяў, на якія выводзіцца інфармацыя аб маршруце руху цягніка, тэмпературы паветра і часе. На дысплеях можна будзе паказваць і відэаролікі.

## Беларусь зальюць бярозавым сокам



Сёлета аб'ём нарыхтоўкі павялічаць амаль на 50%.

У 2011 годзе плануецца нарыхтаваць 22 тысячы тон бярозавага соку. Гэта на 47% больш, чым летась. У канцы сакавіка сок пачне ісці на Берасцейшчыне. Трохі пазней абудзяцца бярозы і ў больш паўночных рэгіёнах. Сакавік — цудоўная магчымасць паласавацца свежым бярозавікам.

Бярозавы сок памоцны пры хваробах нырак, у ім шмат вітамінаў.

Бярозавік і квасы з яго — нацыянальны напой беларусаў.

**МБ**



**Спадарожнікавае фота 15-тысячнай Мінск-Арэны з космасу.**

## Google зноў абнавіў мапу Мінска

У праграме Google Earth, якая дазваляе разглядзець спадарожнікавыя здымкі Зямлі ў добрай якасці, абнавілася мапа беларускай сталіцы. Папярэдняе абнаўленне адбылося ў снежні 2009 года. На партал былі выстаўленыя здымкі, зробленыя ўлетку таго года.

Новы здымак датуецца 24 верасня 2010 года.

Ужо адкрытая «Мінск-Арэна», скончаны рамонт моста каля гіпермаркета «Карона», працягваецца будоўля першага беларускага хмарачоса «Ветразь». Мапа даступная па адрасе maps.google.com.

**ЯВ**

# Беларуская інтэрнэт-аўдыторыя за год павялічылася на паўмільёна чалавек

Беларуская інтэрнэт-аўдыторыя за год павялічылася на 16,73%. У абсалютных значэннях — з 3 мільёнаў чалавек у студзені 2010 года да 3,5 мільёнаў у студзені 2011-га.

Пра гэта паведаміў Міхаіл Дарашэвіч, прадстаўнік праекта Gemius Belarus — агенцтва анлайн-даследавання Цэнтральнай і Усходняй Еўропы.

Паводле яго слоў, інтэрнэт-карыстальнікам называецца чалавек, які на працягу месяца хаця б аднойчы скарыстаўся інтэрнэтам.

Жанчын і мужчынаў у інтэрнэт ходзіць прыкладна пароўну. Асноўная маса беларускіх карыстальнікаў — людзі маладыя. Людзі ад 55 гадоў складаюць усяго 4,5% аўдыторыі.

Пры гэтым 71% апытаных адзначылі, што карыстаюцца інтэрнэтам штодня.

Gemius — міжнароднае даследчае агенцтва, еўрапейскі лідар і піянер у сферы вымярэння інтэрнэту і даследаванняў у інтэрнэце. Вымярэнне аўдыторыі gemiusAudience з'яўляецца стандартам амаль у палове краін Еўропы.

Агенцтва Gemius было заснавана ў Польшчы ў 1999 годзе і актыўна дзейнічае больш як у 30 краінах Еўропы і Блізкага Усходу.

**Паводле БелаПАН**

## Адмена пераводу стрэлак будзе ўзгадняцца з Расіяй

Хоць і былі размовы пра адмену «летняга—зімовага» часу, але 27 сакавіка Беларусь перавяла стрэлкі гадзіннікаў на гадзіну наперад.

Пытанне пра магчымасць адмены гэтых сезонных пераводаў будзе разгледжанае не раней за лета 2011 года, паведамляе БЕЛТА. У Дзяржкамітэце па стандартызацыі кажуць, што будуць уважліва сачыць, ці адменяць перавод стрэлак у Расіі: «Хацелі б захаваць тое становішча, калі суседні часавы пояс адрозніваецца на адну гадзіну, не больш».

**СМ**

## Для беларусаў у Вільні адкрылі шопінг-маршрут

16-мясцовы мікрааўтобус пачаў перавозіць пасажыраў па маршруце Мінскі аўтавакзал — віленскі Akropolis.

Такая паслуга прапанаваная тым беларусам, хто прыязджае ў сталіцу Літвы на закупы. Як аказалася, для такіх гасцей найбольшы цэнтр прыцягнення — гандлёвы комплекс Akropolis.

Кіраўнік віленскага Akropolis Чэславас Урбанавічус адзначыў, што ў 2010 годзе кожны беларускі госць выдаткаваў у гандлёвым цэнтры ў сярэднім па 300–400 долараў.

**Паводле «Еўрарадыё»**

### Сапраўдная беларуская кухня

## Дранікі

14 бульбін, 1—2 яйкі, адна—дзве лыжкі мукі, алей для смажання, 2—3 цыбулі, соль. 100—200 г сала і цыбуля, калі хочаце засмажваць.

Сырую бульбу абабраць, нацерці, цыбулю таксама нацерці на дробнай тарцы, дадаць муку, яйкі, соль, перамяшаць. Выкладаць лыжкай на моцна разагрэтую патэльню з алеем і смажыць.

Падаваць са смятанай. Можна дадаць у цеста 0,5 шклянкі сырадвашы ці кефіру.

Нашым дзядам смакавала запіваць дранікі салодкім чорным чаем.

Гатовыя дранікі можна перакласці дробнымі кавалачкамі сала, падсмажанага разам з цыбуляй, або проста цыбулі, смажанай на алеі, і на кароткі час паставіць у гарачую духоўку.

**Падрыхтавала НБ**

### Прыватныя абвесткі

**ВАНДРОЎКА**

**Шукаем ахвотных** далучыцца 3 красавіка да падарожжа «Косаўскі абшар» па маршруце: Міронім—Быцень—Івацэвічы—Косава—Мерачоўшчына—Бусяж—Белавічы—Альба. Т.: 262-73-43, (029) 111-73-32.

**ПАДЗЯКІ**

**Вялікі дзякуй** за падтрымку і аказанне інфармацыйна-прававой дапамогі праваабаронцам-вясноўцам і асабіста падзяка для Насты Л., Алеся Б., Уладзіміра Л. Дзякуй Вам, людзі, прабачце за сказанае. З павагай, Кастусь Ж.

**КНІГІ**

**Кніжкі былых бумбамлітаўцаў**, часопіс «Тэксты»-2007 танна прадам. Т.: (029) 332-69-56. Святлана.

**ТАЛАКА**

**У пачатку 2011 года** адкрыўся першы студэнцкі некамерцыйны праект па стварэнні руска-беларускага слоўніка юрыдычных тэрмінаў і канструкцый. Мэта дадзенага праекта — папулярызацыя роднай мовы сярод студэнтаў, юрыстаў-практыкаў і ўсіх, хто ў сваім жыцці сутыкаецца з правам. Мы хочам дабіцца, каб беларуская мова выйшла з ценю і смела пачала выкарыстоўвацца ў нашым жыцці! Калі ў Вас ёсць жаданне і веды беларускай мовы, мы запрашаем Вас да ўдзелу ў гэтым праекце. Звяртайцеся на адрас marisja.bel@gmail.com.

Прыватныя абвесткі ў «НН» (не больш за 15 словаў) можна падаць бясплатна. Дасылайце поштай (а/с 537, 220050, Мінск) ці праз e-mail (nn@nn.by) або размяшчайце на форуме сайта www.nn.by. Дык скарыстайцеся!

## Кемікі

Адкажы, колькі атрымаецца, калі ад найменшага чатырохзначнага ліку адняць найбольшы адназначны; ад найменшага трохзначнага ліку адняць найбольшы адназначны.

Маючы лікі 10, 20, 30, 40, выкарыстоўваючы знакі (+, -,:, x) і дужкі, атрымай адказы 0, 1, 50, 80, 100.

**Адказы глядзі на старонцы 16.**

**Сабрала Валянціна Карнялюк**




Апошнія халады. Бомж грэецца ля Вечнага агню на плошчы Перамогі.




Гродзенскае абласное ўпраўленне МНС і «Белдзяржстрах» выпусцілі сацыяльную рэкламу па-беларуску. На фота: бігборд у Карэлічах.




Сховішча Ерэванскага віна-гарэлачна-каньячнага завода «Ной». Абяцаючы адкаркаваць гэтую бочку ў дзень вяселля Мікалая Лукашэнкі, армяне хітруюць — каньяк у часе вытрымкі выпараецца (т.зв. «доля анёлаў») і яго ўвесь час даліваюць. Таму бочкі ў сховішчы ніколі не запламбоўваюць. Паколькі гэтая запламбаваная, Коля рызыкуе застацца без каньяку.



У выходныя моладзь гукала вясну ў Вязынцы.




## Анекдоты

Функцыя «Змена рэжыму» ў мабільным тэлефоне прызнаная экстрэмісцкай.

* * *

Скандал у дзень вяселля — жаніх папрасаваў штаны праз вэлюм маладой.

* * *

Фэншуй прыдумалі кітайскія злодзеі, каб лепш арыентавацца ў кватэрах.

* * *

— Чаму вы не ратавалі жонку, калі яна тапілася?
— А я хіба ведаў, што яна топіцца? Крычала як звычайна.

* * *

Навіна. Вельмі спалоханы страус забіў крата!

* * *

Муж вяртаецца з палявання. — Як поспехі, даражэнькі? — пытаецца жонка. — Нармальна, месяц не будзем купляць мяса. — Ты забіў лася? — Не. Лось жывы. Я прапіў увесь заробак.

* * *

Тыя, хто кажа, што ноччу есці нельга, хай паспрабуюць патлумачыць, навошта тады прыдуманае святло ў лядоўні.

## «НН» сто гадоў з вамі

Трое сялян купілі білеты на параход «Эстонія» да Амерыкі. Перад адпраўкай доктар прызнаў іх хворымі. Матросы з качагарамі ўзяліся завезці іх у Амерыку тайком і за перавоз узялі з іх па 65 рублёў. Завялі ў ніжнюю часць парахода і там засыпалі каменным вуглем. Два дні нічога не еўшы, мужыкі давай крычаць, але голасу іх ніхто не чуў. Перад адыходам кожнага парахода робяць вобшукі ў вуглі поруч жалезным прэнтам. Вось і наткнуліся на тых напалавіну жывых людзей. На судзе эмігранты сказалі, што заплацілі грошы, а матросы і качагары ад усяго адказаліся, што зусім іх і не бачылі; і суд скончыўся нічым.

**«НН». №12. 1911**

Нечаканасцю мінулага тыдня сталася змяненне парадку абмену наяўнай валюты. Цяпер абменныя пункты атрымалі права «спецыялізавацца»: адны выключна на набыцці, другія — на продажы. Пры гэтым баяцца такога «падзелу», маўляў, не трэба, бо новае правілы датычыць толькі некаторых «абменнікаў», якія знаходзяцца ў буйных крамах і іншых людных месцах. Якраз там, дзе дагэтуль набыць валюту было больш-менш рэальна.

**«НН». № 12. 2001**

**Адказы да старонкі 15:**

1000-9=991
100-9=91

(30+20-10)-40=0
(40-30):(20-10)=1
(30-20)×(40-30)=100
40×(20:10)-30=50
(30+10)×(40:20)=80

**Наша Ніва**
незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
**галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:**
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Мінск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.**
**E-mail: nn@nn.by**
**On-line: www.nn.by**

 8 палос фарматам A2, 4 друк. арк. Друкарня РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

**Наклад 7060.** **Газета выдаецца 48 разоў на год.**
Нумар падпісаны ў друк 23.00 29.03.2011.
Замова № 1470.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
ISSN 1819-1614
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12